Год выданьня 66. № 623, Верасень - Кастрычнік 2016 г. **Жыве Беларусь!**





# БЕЛАРУС

ISSN 1054-9455

9 771054 945005

**BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World**
*Published by the Belarusan American Association, Inc.*

*Postal address:* **P.O. Box 456 New York, NY 10025 USA**
*E-mail:* ***bielarus@bazahq.org***

# 25-я гадавіна Аднаўленьня Незалежнасьці Беларусі

***Шаноўныя чытачы!***

***Гэты нумар газэты адлюстроўвае падзеі, якія адбываліся ў жніўні-верасьні бягучага году. Узяўшы яго ў рукі, вы адразу адчуеце, што ён больш важкі, чым звычайна, і не толькі па фізічнай вазе, але і па зьместоўнасьці. За гэтыя два месяцы ў беларускім жыцьці на Бацькаўшчыне і ў замежжы адбылося шмат адметных падзеяў. Пра ўсе з іх вы знойдзеце інфармацыі на старонках газэты. Асаабліваю ўвагу мы надалі 25 гадавіне сьвяткаваньня Аднаўленьня незалежнасьці Беларусі ў 1991 годзе, якое паўсюдна ўрачыста адзначалася беларускай патрыятычнай грамадзкасьцю. Мы не пакінулі без увагі і парляменцкія выбары ў Беларусі, якія былі ў чарговы раз сфальсіфікаваныя і супроць чаго беларусы пратэставалі, як на Бацькаўшчыне, так і ў замежжы.***

***Асобна мы падаем апісаньне 32-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі, якая прайшла напачатку верасьня ў Канадзе і сталася важнай падзеяю для амэрыканскіх і канадыйскіх беларусаў. У Атаве эстафету правядзеньня наступнай Сустрэчы пераняло ўжо Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.***

***Як мы абяцалі ў мінулым выпуску, частку месца ў газэце мы аддалі знамянальнай падзеі - адзначэньню 90-гадовага юбілею выбітнага дзеяча беларускай дыяспары ў Амэрыцы сп. Янкі Запрудніка, які сп. Янка сьвяткаваў у жніўні.***

***Жадаем вам прыемнага і пазнавальнага чытаньня і чакаем вашых допісаў у газэту.***

***Рэдакцыя.***

# Сьвяточныя ўрачыстасьці ў Нью-Ёрку

28 жніўня ў грамадзкай залі Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага беларусы Нью-Ёрку адзначылі 25-годдзе Аднаўленьня Незалежнасьці Беларусі. Урачыстасьці прайшлі з асаблівай узьнёсласьцю. Раніцаю ў царкве быў адслужаны Малебен за Беларусь, урачыста быў унесены нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг, і прысутныя прасьпявалі разам гімн "Магутны Божа".

Пасьля гасьцям быў прапанаваны сьвяточны абед з традыцыйных страваў беларускай кухні, які прыгатавалі пад кіраўніцтвам Алены Талатынік, Вольга Талатынік і іншыя сябры Бруклінскага аддзелу БАЗА і парафіяне царквы.

Сьвяткаваньне адчыніла старшыня Бруклінскага аддзелу БАЗА сп. Тацьцяна Красоўская, якая павіншавала прысутных з гэтым адным з найважнейшых сьвятаў у сучасный беларускай гісторыі. Далей слова узяў сп. Зянон Пазьняк, непасрэдны ўдзельнік і лідэр тых падзеяў 1991 году, якія прывялі да аднаўленьня незалежнасьці. Ён падкрэсьліў, што Адраджэньне незалежнасьці Беларусі было вынікам рызыкоўнай, часам незаўважнай, але заўсёды самаадданай працы беларусаў на працягу 200 гадоў з моманту яе страты пасьля захопу беларускіх зямель Расеяю у выніку падзелаў Рэчы Паспалітай і ВКЛ. Змаганьне дэмакратычных сілаў Беларусі 90-ых гадоў стала завяршальным этапам на гэтым складаным шляху. Выступоўца падрабязна апісаў падзеі ў Вярхоўным Савеце Беларусі, дзе група дэпутатаў ад БНФ змагалася з камуністычнай большасьцю за тое, каб нарэшце Дэклярацыі аб незалежнасьці, прынятай у 1990 годзе, быў нададзены статус канстытуцыйнага закону, што азначала поўнае юрыдычнае замацаваньне дзяржаўнай незалежнасьці краіны.





Далей былі заслуханы пісьмовыя і вусныя віншаваньні, у тым ліку ад Рады БНР.

Пасьля выступу сп. Пазьняка актывісты Бруклінскага Адзелу БАЗА - Вольга Талатынік, Натальля Федарэнка, Варвара і Вольга Ліпуновы, Сьвятлана Казачок, Сяргей Касьцюк, Тацьцяна Красоўская прачыталі вытрымкі з эсэ Уладзімера Арлова " Незалежнасьць - гэта...".

Вельмі эмацыйным і праніклёным быў выступ Галіны Пазьняк, якая прачытала нізку лірычных вершаў Якуба Коласа.

Асабліва ўпадабалася прысутным тэатралізаваная пастаноўка арыгінальнай сатырычнай паэмы сябра БАЗА Сяргея Касьцюка "Містычная гісторыя з праекцыяй на рэальнасьць" пра тое, як беларусы шукалі і знайшлі тую Беларусь, пра якую марылі. Асаблівa трэба адзначыць выканаўцу галоўнай ролі - Уладзімера Андрыяша, таксама Юрася Зэкава, самога аўтара Сяргея Касьцюка.

На заканчэньне сьвята з сольным канцэртам выступіла госьця з Беларусі - Тацьцяна Матафонава-Грыневіч, якая выканала нізку патрыятычных і лірычных песень на вершы М. Багдановіча, З. Пазьняка, Р. Барадуліна, Г. Бураўкіна, Н. Гілевіча, У. Някляева і інш.

У сяброўскіх размовах за сталом прысутныя дзяліліся ўспамінамі пра той час, моладзь распытвала сп. Пазьняка, выказвалі заклапочанасьць пра тое, каб здабытая незалежнасьць не была страчаная, што за яе і цяпер трэба змагацца не толькі ў Беларусі, але і ў замежжы.



# 25-я гадавіна Аднаўленьня Незалежнасьці Беларусі

## Сьвята ў Таронта

28 жніўня 2016 г. у Таронта адбыўся вялікі Фэст. Беларуская грамадзкасьць Канады адзначала 25-я ўгодкі Незалежнасьці Беларусі. 25 Жніўня 1991 г. зьдзейсьнілася 200-гадовая мара нашага народу - праз нясупынную барацьбу, праз мільёны жыцьцяў сваіх лепшых сыноў і дачок мы здабылі вольнасьць і сталі роўнымі сярод роўных у суквецьці народаў сьвету.

З нагоды слаўнае даты Згуртаваньне Беларусаў Канады зааргнізавала ў Беларускім Цэнтры Таронта ўрачысты сход. На ўваходзе ў будынак Цэнтру луналі беларускі і канадыйскі сьцягі. У памяшканьні, дзе сабраліся ўдзельнікі сходу, чысьціню, сьветласьць, унутраны ўздым надавалі яшчэ пяць бел-чырвона-белых палотнаў, выява Пагоні. На стале, пакрытым беларускім сьцягам, бачны кнігі "Сэсія Незалежнасьці", "Дэпутаты Незалежнасьці", "Развагі", "Цяжкі час", брашуры, выпускі бюлетэню "Беларускія ведамасьці", прысьвечаныя Дню Незалежнасьці Беларусі. Вялікае Сьвята на нашым двары.

Ва ўступным слове старшыня Галоўнае управы ЗБК Зьміцер Эльяшэвіч узгадаў пра падзеі 25-гадовае даўніны, калі гісторыя савецкае дзяржавы крута зьмяніла сваю хаду, імпэрыя трэснула, і паняволеныя ёю народы атрымалі ўнікальную магчымасьць самым вырашыць свой лёс. Як паказалі далейшыя падзеі, менавіта тыя лічаныя дні жніўня 1991 г. сталіся вырашальнымі і ў гісторыі Беларусі. Беларускі Народны Фронт, атрымаўшы ад гісторыі меней, чым тры гады часу з дня свайго ўзьнікненьня, і прыняўшы на ўзбраеньне беларускую нацыянальную ідэю, змог за гэты кароткі час ня толькі прыцягнуць на свой бок значную частку беларускага грамадзтва, але й абапіраючыся на ейную падтрымку здзейсьніць сваеасаблівы палітычны подзвіг - прымусіць кіраўніцтва тады яшчэ БССР правесьці нечарговую сэсію Вярхоўнага савету, ва ўпартай парляманцкай барацьбе з камуністычна-наменклатурнаю дэпутацкаю большасьцю дамагчыся прыняцьця пакету асноватворчых законаў, юрыдычна аформіўшых зьяўленьне на палітычнай мапе сьвету новае дзяржавы. І што самае неверагоднае, амаль немагчымае пры склаўшымся ў парляманце раскладзе палітычных сілаў, але вельмі прынцыповае ў той час - прымусіць самых дэпутатаў-камуністаў сваімі ж галасамі забараніць дзейнасьць свае собскае камуністычнае партыі.




Былі агучаныя віншаваньні з 25-угодкамі Незалежнасьці Беларусі Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілла і Старшыні Кансерватыўна-Хрысьціянскае партыі БНФ "Адраджэньне" Зянона Пазьняка.

Сакратар Галоўнае управы ЗБК Віталь Кошалеў распавёў пра пэўныя эпізоды Сэсіі Незалежнасьці, пра тактыку дзеяньняў парламентскай апазыцыі... пра тактыку дзеяньняў параўнальна нешматлікае Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, узначаленай Зянонам Пазьняком. Каментуючы здымкі з Радыё Свабода на экране, адлюстроўваючыя падзеі жніўня 1991 г., В. Кошалеў зьвярнуў увагу на адзін зь іх, дзе над сабраўшыміся на мітынгу перад домам ураду людзьмі бачна постаць хлопчыка ў кепцы й клетчатай кашулі, які трымаў у руках высока ўзьняты бел-чырвона-белы сьцяг з чатырохканцовым крыжом на дрэўцы. Гэтым хлопчыкам, як, нарэшце, праз 25 год(!) прызнаўся сам Віталь Кошалеў, быў ён сам і што сядзеў ён тады на плячох свайго бацькі, таксама Віталя Кошалева, дацэнта кафедры Менскага мэдунівэрсытэту. Пазьней менавіта гэты гістарычны здымак аздобіў тытульны бок вокладкі брашуры Зянона Пазьняка "Незалежнасьць Беларусі. 20 гадоў", выдадзенай у 2011 г. у Варшаве.

Алесь Кот прадэманстраваў аўдыторыі адзін цікавы архіўны здымак і распавёў пра ягоную гісторыю. У красавіку 1991 г. дэлегацыя Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце БССР візітавала ў Канадзе і Злучаных Штатах Амэрыкі. У склад дэлегацыі ўваходзілі Старшыня БНФ Зянон Пазьняк, прэм'ер-міністар ценявога ўраду БНФ Уладзімер Заблоцкі і намесьнік Старшыні БНФ Лявон Баршчэўскі. Тады ніхто яшчэ ня ведаў, што станецца праз чатыры месяцы ў жніўні 1991. Але Фронт актыўна працаваў над ажыцьцяўленьнем свае раней прадэкляраванае мэты - заваёвы незалежнасьці Беларусі і рабіў у гэтым накірунку неабходныя захады, у тым ліку зандзіраваў глебу ў палітычных колах Захаду. Пра той гістарычны візіт было падрабязна напісана ў травеньскім 1991 г. выпуску газэты "Беларус".

На здымку, зробленым у Атаве, Янка Сурвілла, Лявон Баршчэўскі, Старшыня Галоўнае Ўправы ЗБК Мікола Ганько, Уладзімер Заблоцкі, Зянон Пазьняк, Івонка Сурвілла. Менавіта І. Сурвілла, якая ў 1997 г. сталася абранаю на Старшыню Рады БНР, а тады, у 1991г., выконваючы ролю каардынатара візіту дэлегацыі БНФ у Канадзе, зарганізоўвала сустрэчы дэлегатаў БНФ з ўрадавымі коламі краіны. Зьяднаньне на адным здымку двух выбітных постацяў сучаснае беларускае палітыкі - Івонкі Сурвілла і Зянона Пазьняка - сымбалічная неразрыўна повязь падзеяў двух часоў - 1918г. і 1991г. Дэклярацыя Беларускае Народнае Рэспублікі 25 сакавіка 1918г. сталася пралогам Незалежнасьці Беларусі, прадэклараванае 25 жніўня 1991г. Бяз першага ня адбылося б другога. Сёньня 25 Сакавіка 1918г. - Дзень Волі і 25 Жніўня - Дзень Незалежнасьці ёсьць галоўнымі Беларускімі Сьвятамі.

Асноўнаю дзеяю ў праграме ўрачыстасьцяў сталася прамая трансляцыя па скайпу прамовы Старшыні Кансерватыўна-Хрысьціянскае партыі - БНФ "Адраджэньне" Зянона Пазьняка ў залі Беларускага Цэнтару ў Нью-Ёрку, дзе Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне таксама праводзіла ўрачысты ход, прысьвечаны 25-м угодкам Незалежнасьці Беларусі. Жывы голас галоўнага архітэктара і выканаўцу гістарычных падзеяў 25-гадовае даўніны, ягоны аналітычны расповед не пакінулі абыякавымі удзельнікаў сходу ў Таронта, і пасьля сканчэньня ўсе прысутныя дзякавалі прамоўцу цёплымі воплескамі.

*Галоўная управа ЗБК*
*Таронта*

# Новыя кнігі Зянона Пазьняка

***18 верасьня ў грамадзкай залі Сабора БАПЦ у Нью-Ёрку адбылася прэзэнтацыя дзьвюх новых кніг Зянона Пазьняка.***

Адна з іх «Незалежнасьць - 25», выданьне якой прымеркавана аўтарам да сёлетняга юбілею слаўнай даты 25 жніўня 1991, апавядае пра дасягненьне дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі ў 1991 г., каштоўнасьці незалежнай дзяржавы і абставіны, якія павінна ўлічваць будучая вольная Беларусь.



Другая кніга — мастацкі раман "Палын-палын..." Дзеянне ў кнізе пачынаецца ў 30-х гадах на Віленшчыне і працягваецца ў 1940-60-х гадах у БССР. Паказана акупацыйная рэчаіснасць савецкага рэжыму, яго норавы і парадкі. У цэнтры сюжэта — людзі, якія шанавалі сваю годнасць і Бацькаўшчыну, змагаліся за яе волю і адраджэньне. Вобразна пададзены і тыповыя для тых часоў адмоўныя персанажы — прыспасабленцы, кар'ерысты і манкурты, якія не шануюць сваю нацыю, культуру, мову і ўвогуле сваю чалавечую годнасьць.

Пасьля выступу аўтара пачалася ажыўленая дыскусія. Тыя, хто пасьпеў прачытаць кнігі, дзяліліся сваімі ўражаньнямі, выказвалі свае меркаваньні, старэйшыя згадвалі абставіны ўласнага жыцьця ў савецкай імпэры. Некаторыя нават зачытвалі ўпадабаныя імі ўрыўкі з раману. Атрымалася цікавая, зьмястоўная гаворка, якая паказала, як важна праводзіць такія інтэлектуальныя імпрэзы, што спрыяюць разьвіцьцю асобы. Тацьцяна Красоўская падкрэсьліла, што героі раману — гэта вобразы тых людзей, хто пазьней браў удзел у адраджэнскім руху і змаганьні за незалежную Беларусь, гэта яны дапамагалі аднаўленьню незалежнай Беларусі ў 1991 годзе. Прысутныя выказалі жаданьне пабачыць працяг раману.

# Заява Рады Беларускай Народнай Рэспублікі

## з нагоды выбараў у Палату Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь, якія прайшлі 11 верасьня 2016 г.

Рада Беларускае Народнае Рэспублікі,

Зважаючы на шматлікія парушэньні дэмакратычных стандартаў, такія, як:

- Факты зьняцьця з выбараў і ціску на кандыдатаў ад апазыцыі,

- Адсутнасьць умоваў для вядзеньня кандыдатамі ад апазыцыі паўнавартаснае передвыбарчае кампаніі,

- Фактычную непрадстаўленасьць апазыцыі ў выбарчых камісіях усіх узроўняў,

- Татальную непразрыстасьць працэдуры падліку галасоў, асабліва пададзеных у рамках датэрміновага галасаваньня,

- Факты ціску на выбарцаў, у тым ліку прымушэньне да датэрміновага галасаваньня,

- Факты ціску на назіральнікаў за галасаваньнем, у тым ліку неабгрунтаванага выдаленьня назіральнікаў з участкаў,

- Факты фальсыфікацыі працэдуры галасаваньня і іншыя,

Улічваючы невыкананьне афіцыйнымі ўладамі Рэспублікі Беларусь рэкамэндацый АБСЭ што да ўдасканаленьня выбарчага працэсу ў Беларусі,

1. Канстатуе, што выбары ў Палату Прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь не зьяўляліся сумленнымі і свабоднымі, а сфармаваная па іх выніках структура ня можа разглядацца як законна і дэмакратычна абраны парламэнт Беларусі

2. Зьвяртае ўвагу на тое, што выбары былі праведзеныя з істотнымі парушэньнямі дзеючага заканадаўства Рэспублікі Беларусь, у тым ліку Канстытуцыі, за якія прадугледжаная крымінальная адказнасьць; а таксама з парушэньнем міжнародных пагадненьняў, падпісаных Рэспублікай Беларусь

3. Заклікае міжнародную супольнасьць, у тым ліку Эўрапейскі Зьвяз і Раду Эўропы, абмежаваць узаемадзеяньне з Нацыянальным сходам Рэспублікі Беларусь тэхнічнымі пытаньнямі, выключыўшы магчымасьць фармальнага або фактычнага афіцыйнага прызнаньня гэтае арганізацыі ў якасьці парламэнту Рэспублікі Беларусь

4. Заклікае міжнародную супольнасьць аказаць ціск на афіцыйныя ўлады Беларусі з мэтаю дэмакратызацыі палітычнае сыстэмы Беларусі і гарантаваньня абароны зацьверджаных у Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь правоў чалавека

5. Заклікае афіцыйныя ўлады Рэспублікі Беларусь да вызваленьня палітычных вязьняў, у тым ліку Эдуарда Пальчыса, Міхаіла Жамчужнага, Уладзіміра Кондруся, прывядзеньня палітычнае сыстэмы Беларусі ў адпаведнасьць зь міжнароднымі дэмакратычнымі стандартамі і да правядзеньня дэмакратычных і празрыстых выбараў у органы ўлады ўсіх узроўняў.

*13 верасьня 2016 г.*

# Заява Беларуска-Амерыканскае Задзіночаньня

## адносна парлямэнцкіх выбараў у Беларусі 11 верасьня 2016

11 верасьня 2016 года ў Беларусі прайшлі парлямэнцкія выбары з мэтай абраньня 110 дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу - галоўнага заканадаўчага органа Рэспублікі Беларусь. Арганізацыя выбарчай кампанііхарактарызаваліся шматлікімі парушэньнямі дэмакратычнага працэсу, прадугледжанага Канстытуцыяй Беларусі.

Парушэньні ў перыяд выбараў уключалі амаль поўную адсутнасьць прадстаўнікоў апазыцыі ў выбарчых камісіях усіх узроўняў, адвольнае прыняцьце рашэнняў аб рэгістрацыі кандыдатаў, адсутнасьць належных умоваў свабодна праводзіць агітацыю і мець зьносіны з выбаршчыкамі без ўмяшаньня дзяржавы, прымус выбарьшчыкаў да галасаваньня, асабліва такіх залежных ад улады групаў выбаршчыкаў, як студэнты, вайскоўцы, працаўнікі дзяржаўных прадпрыемстваў, перасьлед незалежных назіральнікаў, і, нарэшце, абсалютная адсутнасьць празрыстасьці ў падліку бюлетэняў для галасаваньня, у тым ліку датэрміновага.

Пачынаючы з 1994 года, калі Аляксандр Лукашэнка быў абраны першым і да гэтага часу адзіным прэзыдэнтам Беларусі, міжнародныя назіральнікі адмаўляліся прызнавацьсвабоднымі і справядлівымі ўсе праведзеныяз таго часу выбары і рэферэндумы ў Беларусі. Нежаданьне прытрымлівацца дэмакратычных стандартаў прывяло да працяглага непрызнаньня законнасьці вынікаў выбараў, што надалей спрычынілася да міжнароднайізаляцыі Беларусі.

Нягледзячы на добра задакументаваныя парушэньні міжнародных стандартаў правядзеньня выбараў, Беларусь адмовілася выканаць рэкамендацыі АБСЕ па ўдасканаленьні выбарчага працэсу.Як адзначыла Місія БДІПЧ/АБСЕ па назіраньню за выбарамі “шэраг ключавых, даўно прынятых рэкамендацый АБСЕ/БДІПЧ і Венецыянскай камісіі Рады Эўропы яшчэ павінны быць выкананыя, працягвае існаваць неабходнасьць комплекснай рэформы выбарчай сыстэмы ўмежах больш шырокага працэсу дэмакратызацыі”.

Міжнародныя назіральнікіпадкрэсьліваюцьўсваёй заяве аб папярэдніх высновах, што ў Беларусі “захоўваецца мноства сістэмных недахопаў”, і што “канстытуцыйна-прававая база не ў поўнай меры гарантуе правядзеньне выбараў у адпаведнасьці з абавязкамі ў рамках АБСЕ і іншымі міжнароднымі абавязкамі і стандартамі”.

Грунтуючыся на высновах міжнародных назіральнікаў, Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне заклікае міжнародную супольнасць, найперш Злучаныя Штаты і Эўрапейскі Зьвяз, адмовіцца прызнаць парлямэнцкія выбары ў Беларусі 2016 году свабоднымі і справядлівымі.

Мы таксама заклікаем дэмакратычныя краіны трымацца больш прынцыповага падыходу ў дыялёгу з беларускім урадам, каб накіраваць яго ў бок дэмакратызацыі палітычнай сістэмы, гарантаваць фундамэнтальныя палітычныя і грамадзянскія правы беларусаў і праводзіць выбары пры строгім выкананьні з міжнародных стандартаў і нормаў.

*12 верасьня 2016 года*

# Мітынг пратэсту

Напярэдадні выбараў у парлямэнт 10 верасьня каля Беларускага консульства ў Нью-Ёрку адбыўся мітынг супраць фальсіфікацый выбараў у Беларусі, арганізаваны моладзевымі актывістамі Бруклінскага аддзелу БАЗА.





Удзельнікі скандавалі лёзунгі: «Мы за сумленныя выбары», «Ярмошыну пад суд!», «Выбары фальшывыя», «Улада нелегітымная», «Фальсіфікатары выбараў пойдуць пад суд», «Беларусь без дыктатуры».

# У Нью-Ёрку дэмантавалі помнік Леніну

Пяціметровую статую дэмантавалі з даху жылога комплексу «Красная плошча» у Іст Вілідж на вуліцы Іст Хаўстан. «Красная плошча» - неафіцыйная назва будынка, трывала ўвайшла ва ўжытак жыхароў горада. Будынак быў пабудаваны ў 1989 годзе. Дызайнер дома Майкл Разэн пасля выбачаўся за сваю працу і прызнаваў, што яна вычварная. Манумент прастаяў там 22 гады.

Як адзначае амерыканскае выданне Curbed, прычынай дэмантажу магла стаць купля будынка новым уладальнікам, кампаніяй Dermot Company.

Стваральнікам пяціметровай статуі быў савецкі скульптар Юрый Герасімаў, але помнік ні разу не выстаўлялася ў Савецкім Саюзе. Пазней яго знайшоў адзін з уладальнікаў «Чырвонай плошчы» на задворку нейкага лецішча ў Падмаскоўі і перавёз у Амерыку.

Нарэшце гэта здарылася, і пачварная статуя з выцягнутай наперад рукою, якая мела ўказваць шлях да камунізму, больш не будзе псаваць выгляд будынку. Пяць гадоў я пражыла недалёка ад гэтага месца і заўсёды, праходзячы міма, думала, як бы нехта прыбраў гэтага "леніна" адсюль, надакучыла глядзець на падобныя помнікі яшчэ на Радзіме.

***Ганна Сурмач***

# Слаўны жыцьцёвы юбілей



***9 жніўня сёлета споўнілася 90 гадоў ад дня нараджэньня сп. Янкі Запрудніка - аднаго з самых вядомых дзеячаў паваеннага пакаленьня беларускіх эміґрантаў у Амэрыцы.***

***Ад юнацкіх гадоў на Бацькаўшчыне і да сёньняшняга дня на чужыне сп. Янка служыў беларускай справе, рабіў усё, што патрабавалі абставіны, каб будаваць беларускую прысутнасьць, беларускае нацыянальнае жыцьцё там, куды закідаў лёс паваенных выганцаў з Беларусі. Быў і ёсьцьактыўным у грамадзкім і палітычным жыцьці, стваральнікам інтэлектуальнага набытку беларускай дыяспары ў замежжы, летапісцам і захавальнікам гісторыі беларускай эміграцыі.***

***Гэтыя старонкі нашай газэты "Беларус", рэдактарам якой і Вы былі некалі, мы прысьвячаем Вам, сп. Янка. Ад імя сёньняшняй Рэдакцыі газэты сардэчна віншуем Вас з асабістым вялікім сьвятам. Не кожнаму даецца Божая ласкамець за сабою 90 гадоў плённага зямнога шляху. Напэўна, толькі тым, хто гэтага заслугоўвае цэлым сваім жыцьцём і хто яшчэ вельмі патрэбны на гэтым сьвеце, каб надалей працягваць пачэсную місію службы свайму шматпакутнаму народу.***

Сёлетні юбілей у жыцьці Янкі Запрудніка далёка ня першы. Былі ўжо кветкі ды прамовы. Іншыя знакавыя даты жыцьця таксама адзначаліся беларускаю грамадою. Добра памятаю сьвяткаваньне ягонага 85-годзьдзя. Прасторная заля Беларуска-амэрыканскага цэнтру ў Саўт-Рывэры была запоўнена роднымі, блізкімі, сябрамі, знаёмымі... Выступы гучалі то акадэмічна ґрунтоўныя, то зь лёгкім гумарам, то зь сьлязою замілаваньня. А "віноўнік урачыстасьцяў" падрыхтаваў для гасьцей сюрпрыз: напісаў тэкст, дапасаваны да музыкі з "Шэрбурскіх парасонікаў", ды сам прасьпяваў гэтую песьню пры мікрафоне. Прысьвячалася песьня жонцы – Надзеі. Неяк пры каве ў гасьцінным доме Запруднікаў давялося пачуць ад гаспадара такія словы: "Жыцьцё – гэта сьвер выпадковасьцей". Мільёны згінулі ў ваеннай ды паваеннай калатнечы ў Эўропе, а некаму выпала прайсьці праз усе тыя жахі, выжыць і працягваць свой зямны шлях. Божы промысел, лёс, выпадак... Ніхто дакладна ня ведае! Трэба проста прымаць рэальнасьць і рабіць тое, што ты сам адчуваеш важным, што найлепш умееш, што дае плён".

# Жыцьцём ня стомлены

Выпадковасьць... Згадваю біяграфію юбіляра. І быццам бачу чатырох падлеткаў, сяброў СБМ, на летняй вуліцы ў Баранавічах. Вяртацца да бацькоў у Мір? Ці хто там чакае з прыходам савецкай арміі? Рушыць на Захад? Як і куды менавіта? Праходзіць міма настаўніца, спадарыня Воўк-Левановіч, ды кажа: "Хлопцы, вы яшчэ можаце сесьці ў грузавік..." Хвіліна на роздум і прыняцьцё рашэньня. Сяргей Вільчыцкі ды Вадзім Сурко ідуць да машыны, а тыя двое вырашаюць вярнуцца ў Мір. Больш ніколі Сяргей і Вадзім зь імі не пабачыліся, нічога пра іх не пачулі.

Вось вызваленаму з палону юнаку ў Нямеччыне трэба знайсьці надзейны прытулак. У беларускім лягеры для перамешчаных асобаў няма вольных месцаў для "навенькіх", але нейкі чалавек на імя Янка Запруднік пакінуў лягер без афіцыйнага афармленьня выезду. І Сяргея Вільчыцкага суродзічы апаратыўна пасяляюць у лягер... як Янку Запрудніка. Новае імя застанецца з чалавекам на ўсё далейшае жыцьцё, пройдзе амэрыканскі скрынінг падчас эміграцыі ў Амэрыку, абароніць сваякоў (Вільчыцкіх) на Бацькаўшчыне ад перасьледу, упішацца ў гісторыю незалежнай Беларусі.

Каб завяршыць сваю сярэднюю адукацыю ды мець належныя дакументы, дваццацігадовы Янка Запруднік ідзе вучыцца ў Беларускую гімназію імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне. І тут ён адкрывае ў сабе паэта: "Адночы настаўнік (Аўген Каханоўскі) даў хатняе заданьне творчага пляну: напісаць верш або апавяданьне. Верш меўся быць на адну старонку, апавяданьне – на тры. Каб не пісаць тры старонкі, я паставіў сабе напісаць верш". Дадам, што пазьней вершы пісаліся пры розных абставінах і сытуацыях, некаторыя зь іх былі пакладзеныя на музыку такімі кампазытарамі, як А. Карповіч і М. Равенскі ды выконваліся са сцэны.

Праца ў вугальных капальнях Вялікабрытаніі (дагэтуль выплочваюць пэнсію – на куфаль піва хапае!), унівэрсытэт у Бэльгіі, радыё "Вызваленьне" ў Мюнхэне... І няспынная беларуская справа, ахвярная ды нястомная. Выдаваньне беларускамоўнай літаратуры, пісаньне тэкстаў для газэты "Бацькаўшчына", рэдагаваньне. А яшчэ прага навукі, паглыбленьня ведаў, абароны дактарату. Тут ужо не выпадковасьці бачацца мне, а пасьлядоўная й цяжкая праца дзеля асягненьня сваіх мэтаў. Плён гэтай шмат-шматгадовай працы шануецца як эміграцыяй, так і беларусацэнтрычным асяродзьдзем на Бацькаўшчыне ды навукоўцамі-беларусазнаўцамі ў розных краінах сьвету. А юбіляр па-ранейшаму цікавы да новых знаёмстваў, да сяброўскіх гутарак, мае творчыя задумы.

Янка Запруднік стаўся адным зь дзеячаў (ужо сымбалем!) той паваеннай плыні беларускай эміграцыі, якая дакладна й выразна сфармулявала сваю мэту: паставіць Беларусь на мапу сьвету. Найперш – як мага больш поўна распавесьці пра яе ў Амэрыцы, знайсьці тут сяброў і прыхільнікаў беларускай незалежнасьці. Спрыялі гэтаму журналістыка й канцэртная дзейнасьць, кантакты з губэрнатарамі й кангрэсмэнамі, пэтыцыі й антысавецкія мітынгі, мастацкія выставы й ґрунтоўныя публікацыі ў амэрыканскіх даведніках ды энцыкляпэдыях. Калі ў пачатку 1990-ых паўставала Рэспубліка Беларусь, для амэрыканскага істэблішмэнту гэтая краіна ўжо не была terra incognita, як пры заканчэньні Другой сусьветнай вайны.

Сьвяткаваньне 90-годзьдзя Янкі Запрудніка пачалося ў Менску. Да гэтай даты была прымеркаваная прэзэнтацыя кнігі "Кантакты" (укладальнікі Натальля Гардзіенка й Лявон Юрэвіч). Раіла б пачытаць яе ўсім, хто сапраўды хоча ведаць, як няпроста было ва ўмовах "халоднай вайны" весьці змаганьне за беларушчыну, якімі высілкамі здабывалася праўдзівая інфармацыя пра савецкае жыцьцё, як штудыяваліся прэса й новыя кнігі, як цанілася (і выкарыстоўвалася!) магчымасьць наўпростага кантакту з дыпляматамі, пісьменьнікамі, хоць бы й самых артадаксальных савецкіх паглядаў.

Шмат было гэтым летам у Менску, шырэй – на Бацькаўшчыне сустрэчаў з сваякамі, сябрамі ды аднадумцамі, інтэрвію, шчырых гутарак. Пра земляка, навукоўцу, патрыярха эміграцыі прыхільна пісала беларуская прэса.

А ў штаце Нью Джэрзі, дзе жыве спадарства Запруднікаў, юбілей адзначылі сяброўска-сямейнай імпрэзай. Удзельнікі царкоўнага хору, у якім штонядзелі спяваюць таксама Надзея зь Янкам, выканалі для яго й "Ойча наш", і "Happy Birthday", і "Застольную"... Затушыць жа сьвечкі на традыцыйным торце дапамагла спадару Янку праўнучатая пляменьніца ягонай жонкі – Ноэль Шэрыдан. Бо юбіляр і Ноэль нарадзіліся ў адзін і той самы дзень, толькі з розьбежкай больш за восемдзесят гадоў.

***Валянціна Трыгубовіч***



*На здымках: на сяброўска-сямейнай юбілейнай імпрэзе – Ала Кульміцкая, Вітаўт Кіпель, Надзея Запруднік, Янка Запруднік*

# сп. Я. Запрудніка

*Калі я быў падлеткам у маім Міры, гуляў на вуліцы "ў гузікі" або ў "стракалку", я глядзеў на старэйшых людзей, як на асобную катэгорыю, і мне ў галаву не прыходзіла, што некалі буду сам да яе належаць. А пазьней, праз усе дзесяцігодзьдзі мяне інтрыгавала пытаньне: як старыя людзі глядзяць на сьвет і пра што яны думаюць. Мае спробы навесьці гутарку на гэтую тэму са "старымі" запамінальных вынікаў не далі. У гэтай няўдачы ляжыць дадатковая прычына маіх цяперашніх развагаў, бо мяркую, што сяготага з маладых сучасьнікаў можа цікавіць тое самае пытаньне.*



*яго, як на суцэльную глыбу, або лепш: як на адзіную крыніцу нагодаў — выкарыстаных і нявыкарыстаных.*

*А цяпер пра мае памылкі, пра нявыкарыстаныя шанцы "зрабіць лепш".*

*Хоць мой дзед па бацьку, Сьцяпан Марцінавіч Вільчыцкі, прывучаў мяне малога да чытаньня, з кнігамі, абагульняючы ўсё разам, я праводзіў замала часу, асабліва ў школьнай і сталай маладосьці, калі памяць у чалавека найвастрэйшая. А наогул, чытаньне праз цэлае жыцьцё вымагае дысцыпліны, вымагае карыстацца слоўнікамі. Слоўнікі ўзбагачаюць запас лексыкі, і гэтак узмацняеш аналітычнае мысьленьне. Шкадую, што звычка такога чытаньня была ў мяне зь дзіркамі. Шкадую, што калі ў 1950 г. у Бэльгіі ў Лювэнскім унівэрсытэце апынуўся перад выбарам кірунку навучаньня, не пайшоў на філязафічны факультэт заміж гістарычнага. Шкадую, што не здабыўся на вядзеньне калі ня дзёньніка, дык хоць дробных нататак. Такія нататкі, як пабачыў, нават самыя кароткія, даюць нязвычайны эфэкт аднаўленьня памяці. Варта ўвесь час трымаць у галаве кітайскую пагаворку:найслабейшы алавік мацнейшы за наймацнейшую памяць. Памяць заўсёды патрэбная: у дадатак да ўсіх сваіх карысных функцыяў у маладосьці яна найлепшы антыдот альцгаймэрскай хваробе.*

# СЛОВА ДА МАЛАДЫХ
## АД 90-ГАДОВАГА ЮБІЛЯРА

*Дык пра што я думаю?*

*Перш-наперш я думаю, што, калі чалавек пражыў дзевяць дзясяткаў і ўвесь час быў грамадзка актыўным, дык ягоны абавязак падзяліцца з маладымі сваім досьведам. Бо ў роспытах маладымі старэйшых сядытады задаецца пытаньне: "А што вы лічыце памылкамі ў сваім жыцьці? Што можна было зрабіць лепш?"*

*Дык што я мог зрабіць лепш? Якія былі мае памылкі?*

*Перад тым, як адказаць на гэтыя пытаньні, хачу зрабіць заўвагу пра ЧАС. Так, пра час. Маладым гэта важна пачуць. Рэч у тым, што жыцьцё вымяраецца інакш, чымся пра гэта думаецца — ня днямі, месяцамі ці гадамі, а часам. Час — асноўная мерка жыцьця. Час — галоўны жыцьцёвы рэсурс, і гэтым рэсурсам валодаеш ты. Практычныя амэрыканцы праніклівa выказаліся пра час як пра грошы: Time is money.*

*Вось жа запамятай: час — твой час — увесь падпарадкаваны табе. Ты — ягоны валадар. Гэта — твая крыніца творчай энэргіі, ты яго выдаткоўваеш на тую ці іншую, мэту. На больш карысную або меш карысную. Або на пустую.*

*Ёсьць вялікая розьніца ў тым, як на час глядзіцца ў маладосьці і ўстарасьці. У маладосьці бачыш перад сабой час пасечаным: хвіліны–гадзіны–дні–тыдні–месяцы–гады. Гэтая часавая трасянка спараджае ілюзію, што твайму часу няма канца. Час пры ягонай "пасечанасьці" выглядае значна даўжэйшым, чымся ён выяўляецца насамрэч. У гэтай зманлівасьці часу хаваецца небясьпека маладым марнатравіць яго. Змарнаваныя адрэзкі часу, большыя й меншыя, найлепш відны з жыцьцёвага канца. У старасьці час выглядае цэласным, глядзіш на*

*Вельмі важна мець сабе праз усё жыцьцё "вялікую мэту". У катэгорыю "вялікіх мэтаў" я залічаю розныя дабрадзейныя акцыі, рэлігійныя й сьвецкія, у тым ліку патрыятычныя ўчынкі. Для мяне "вялікай мэтай" сталася беларуская нацыянальная справа, якую мы,маладыя, перанялі ад нашых школьных настаўнікаў і грамадзкіх дзеячаў. Нацыянальная справа ў маім разуменьні выглядае рамантычнай сувязі зь мінулымі пакаленьнямі нашага народу. Мы павінны адчувацца абавязанымі перад імі, бо карыстаемся каштоўнасьцямі, якія яны стварылі: першнаперш мовай, а таксама фальклёрнымі й мастацкімі багацьцямі (як цяпер вышыванкамі). У маім разуменьні асоба, каб быць поўнавартаснай, павінна быць цэласнай, павінна адчуваць глыбінную сувязь з продкамі (сямейнымі й нацыянальнымі). Шчасьлівы той, хто адчувае глыбінную сувязь з Бацькаўшчынай, хто зьвязаны зь ёй ня толькі інтэлектам, але й інстынктам — як тыя скарынінскія птушкі, рыбы й пчолы, што ведаюць сваё гнёзды, віры й вульлі. І бароняць іх.*

*Адчуваньне сувязі з Бацькаўшчынай, зьейнай традыцыйнай культурай, незалежна ад таго, дзе жывеш — адно з найглыбейшых і найсаладзейшых пачуцьцяў. Пачуцьцё гэтае праз усё жыцьцё стабілізуе самаадчуваньне й уплывае на выдаткі часу, на прыярытэты ў тваіх дзеяньнях.А пад канец зямнога быту, калі асэнсоўваеш пражыты час, у цябе спакойна на душы, бо праз удзел у справах свайго народу чалавек становіцца неадлучнай частачкай ягонага адвечнага існаваньня.*

***Янка Запруднік***
*Верасень 2016*

## Галоўная управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Сардэчна віншуем сп. Янку Запрудніка з юбілеем, аднаго з найстарэйшых сяброў БАЗА. Вы былі адным з тых, хто закладаў падмуркі беларускага грамадзкага жыцьця на амэрыканскай зямлі. Вы прыехалі ў ЗША з добрым досьведам беларускай грамадзкай дзейнасьці на чужыне, здабытым яшчэ ў паваеннай Эўропе, і свае здольнасьці, навыкі і веды ў поўную сілу выявілі тут, у Амэрыцы, калі трэба было гуртаваць беларускую грамаду і будаваць уласнае і нацыянальнае жыцьцё за акіянам, без надзеі вярнуцца на Бацькаўшчыну.

Дзякуем Вам за ўсё зробленае дзеля беларускай справы і выказваем надзею, што Вашыя набыткі для Беларусі яшчэ папоўняцца Вашай нястомнай працаю.

Няхай і далей Вас натхняе вокліч:

**Жыве Беларусь!**

**Шаноўнаму юбіляру і пажыцьцёваму сябру даслаў віншаваньне сп. Вітаўт Кіпель.**

*Добрага здароўя, доўгага жыцьця, плённай працы табе, дарагі Янка!*

*Дзякую, што ты быў і ёсьць у маім жыцьці, як найлепшы і надзейны паплечнік у нашых агульных беларускіх справах.*

*Шмат гадоў! Шмат гадоў!*

**Янку Запрудніка вітаю з 90-годдзем і ад шчырага сэрца жадаю здароўя і працы на доўгі працяг. Яго працы шырока вядомыя ў Беларусі і ў дыяспары.**

**Янка ёсьць скарб нашага часу, гэты скарб ён сабе заслужыў.**

**Пажадаўма шчыра ўсе разам, каб у добрым здароў'і ён доўга жыў.**

***Лявон Баравы***

***Вельмішаноўны Спадар Ян Запруднік!***

З найвялікшаю прыемнасьцю віншуем Вас з 90-годдзем. Цешымся тым, што маем гонар ведаць Вас і чытаць Вашыя кніжкі.

Колькі прыступкаў наверх да разуменьня гісторыі Бацькаўшчыны давялося пераадолець, раздзіраючы да крыві свой мозг, зашмальцаваны савецкімі стэрэатыпамі!

Напачатку 90-х мінулага стагоддзя існавала ня так і шмат крыніцаў, зь якіх магчыма было напіцца праўды пра гістарычны лёс Беларускага Народу. Але тыя, да чаго змаглі дарвацца, перакруцілі маё нутро і зрабілі зь мяне беларуса.

Маю агучыць, што Вашая кніжка "Беларусь на гістарычных скрыжаваньнях", якую пашчасьціла набыць яшчэ 23 гады таму ў Менску, сталася першаю, што надала мне цэльнае ўспрыяцьце нашае шматпакутнае Гісторыі, што скончылася адваёваю Дзяржаўнае Незалежнасьці 25 Жніўня 1991 г.

Вашая "Дванаццатка" — прыклад таго, як просты беларускі хлапец, пераадолеўшы неверагодныя выкрунтасы лёсу, змог "вырабіць" сябе і з цягам часу стаць гігантам думкі паваеннага Беларускага Замежжа. Прачытаў гэтую кнігу ва ўзросьце 57 год. Але,каб тое сталася гадоў на 30-35 раней, то, магчыма, шмат чаго зрабіў бы ў жыцьці па-іншаму, настолькі ўражвае Ваш расповяд.

Фундамэнт гісторыі Сусьветнае Беларускае Дыяспары складзены ў тым ліку й з Вашых моцных слоўных камянёў, што надае Вам права, азірнуўшыся на пройдзены шлях, ганарыцца собскім унёскам у агульны здабытак Беларушчыны.

Але часьцейкідайце позірк наперад, Спадар Ян! Вам жыць яшчэ Сто Гадоў, і, упэўнены, наканавана наведаць Вольную Беларусь, і напісаць пра тое, як нашая Бацькаўшчына на апошнім гістарычным скрыжаваньні зрабіла свой апошні і правільны выбар на карысьць Нацыянальнага Адраджэньня, на карысьць Беларускага народу. І каб кожная асоба, што стрэнецца Вам ці то на вуліцы альбо ў краме, ці то ў музэі альбоў тэатры, віталa Вас Беларускім Словам — найлепшым лекам для Беларусаў ад касьці, да якіх Вы, безумоўна, належыце ў першую чаргу.

Доўгі працяг шчасьлівага й здаровага жыцьця, Спадару Ян!

З павагаю,

***Алесь і Сьвятлана Кот***
*Таронта, жнівень 2016*



# Фестываль Атлантык Антык

Штогод у апошнюю нядзелю верасьня адна з буйнейшых магістраляў Брукліна Атлантык Авэню ў раёне Бруклінскага даун тауна запаўняецца людзьмі.У гэты дзень тут адбываецца знакаміты фэстываль Атлантык Антык, які ладзіцца ўжо больш за сорак гадоў. Сьвята наведваюць не толькі жыхары Брукліну, але і з цэлага Нью-Ёрку. Шматгалосая,рознакаляровая людзкая плынь цячэ уздоўж вуліцы, дзе па бакахусюдынешта прадаецца, ажно вочы разбягаюцца, так хочацца шмат чаго прыгожага і патрэбнага купіць. Тут можна паспрабаваць розныя прысмакі і добра пад'есьці, каштуючы стравы розных нацыянальных кухняў.



Для беларускай грамады ў Нью-Ёрку гэта асаблівае сьвята, бо як жаіначай - мы на гэтай вуліцы старажылы. Ад 1957 году туту будынку пад нумарам 401 месьціцца беларуская царква і грамадзка-культурны цэнтр. Сам фэстываль адбываецца літаральна пад нашымі вокнамі. Таму і мы кожны год бярэм у сьвяце самы дзейсны ўдзел, ніколі не прапускаем нагоды пагандляваць беларускімі нацыянальнымі стравамі. Купляем у адміністрацыі ліцэнзію на продаж і права разьмясьціць нашу гандлёвую гаспадарку на вуліцы акурат насупраць нашага будынку. Бальшыні гандляроў даводзіцца прывозіць усё абсталяваньне, наладжваць нейкія паходныя печачкі, а нам не трэба , бо мы проста з нашай кухні, з пылу , з жару, выносім прадаваць гарачыя дранікі і за імі стаіць чарга, ледзь пасьпяваем пячы.

Да сьвята рыхтуемся заранёва, закупляем усё патрэбнае, возімносім, гатуем. Усю справу арганізуе Парафіяльная рада царквы з удзелам сяброў Бруклінскага аддзэлу БАЗА. Працуюць усе, хто мае нейкі вольны час. Мужчыны дапамагаюць насіць, устанаўліваць абсталяваньне, а некаторыя і спраўна дапамагаюць жанчынам гатаваць- чысьцяць бульбу і нават спрытнакруцяць галубцы. Гаспадыняю на кухні, як і ў папярэднія гады, быластарэйшая сястра Парафіі сп. Тацьцяна Красоўская. Маючы багаты вопыт у гэтай справе, сп. Тацьцяна клапоціцца пра закупы і складае меню, што трэба гатаваць, каб добра прадавалася, бо гэта ж наш маленькі бізнэс у падтрымку царквы. Не маючы свайго "каня" сп. Тацьцянавельмі ўсьцешылася, што дапамагчы ёй прывезьці закупы да царквы ўзяўся намесьнік старшыні Парафіяльнай рады сп. Юрка Лапіцкі, які, дарэчы, заўсёды ахвотна дапамагае рабіць "дэлівэры". Дзейсную дапамогу аказваў даўні сябра Парафіі сп. Юры Зэкаў, які на ват завіхаўся каля пліты і смажыў дранікі

Памочнікамі на кухні былі нашы маладыя дзяўчаты і хлопцы - сёстры Алена і Вольга Талатынік, Сьвятлана Казачок, Сяргей Касьцюк, Кастусь Шакуноў, Сяржук Салавей, Ільля Кентуха.

Аднак, прыгатаваць смачныя стравы, гэта толькі палова бізнэсу,трэба ўсёвыгадна прадаць, зацікавіць пакупнікоў, бо канкурэнтаў навокал вельмі шмат. Тут ужо справу бяруцуь у свае рукі вопытныя гандляркі - нашыя прыгожыя жанчыны і дзяўчаты. Гэтым разам прываблівалі кліентаў-Ганна Агароднік, якая прыйшла пасьля начной працы і прастаяла на вахце цэлы дзень, Натальля Федарэнка, Сьвятлана Казачок, Алена і Вольга Талатынікі, Аляксандра Назарук, Юля Цыбулька.

Гандаль быў даволі пасьпяховы, амальусё прыгатаванае прадалося і нават таго-сяго не хапіла, найперш, дранікаў. Недахопы возьмуцца пад увагу ў наступным годзе.

Пад вечар сьвяточная дзея пачала заціхаць і мы патроху сабраліпрыбралі сваё гандлёвае начыньне, упакавалі ў мяхі сьмецьце і ўсё стала выглядаць як заўсёды чыстакаля нашага будынку, быццам ніякага сьвята і не было. Але, засталіся заробленыя для царквы грошы і добры настрой, што і гэтым разам мы справіліся. Селі разам усёй нашай працоўнай грамадою за сяброўскі стол і нарэшце самі пачаставаліся нагатаванымі стравамі, якія не было часу паесьці цягам гэтага напружанага дня. Пагаварылі, пажартавалі, пасьмяяліся. Мяняюцца пакаленьні, адыходзяць старэйшыя, прыходзіць моладзь і так з году ў год мы трымаем гэтую традыцыю беларускай прысутнасьці на фэстывалі Атлантык Антык. Людзі цікавяцца не толькі нашымі стравамі, але і царквою і краінаю нашага паходжаньня і беларускай культураю, тым самым мы здабываем вядомасьць прабеларускую нацыю сярод іншых народаў.



*Ганна Сурмач*



# Эўрапейскі погляд на паэзію маладой Беларусі

## Да выхаду ў Беларусі манаграфіі Арнольда Макміліна «Рунь»

У шэрагу падзей культурнага жыцьця беларускай сталіцы выданне і прэзэнтацыя новай манаграфіі брытанскага дасьледчыка беларускай літаратуры, прафэсара Арнольда Макміліна «Рунь», прысьвечанай творчасьці маладой паэтычнай генэрацыі XXI стагодзьдзя, стала адной з важнейшых. І гэта таму, што аўтар, разам са сваім калегам, брытанскім беларусістам, старшынёй Англа-Беларускага таварыства Джымам Дынглі, прадставілі эўрапейскі погляд на тэндэнцыі ў беларускай незалежнай літаратурнай плыні.


А. Макмілін


Д.Дынглі

Пад час прэзентацыі новага выданьня, якая адбылася 4 кастрычніка ў кнігарні «ЛогвінаЎ», не раз было падкрэслена, што аналіз спэцыялістаў такога выкшталцонага ўзроўню, якімі лічацца А.Макмілін і Д.Дынглі, вельмі важны і своечасовы, бо, нават у сябе на Радзіме новыя літаратурныя тэндэнцыі, лепшыя творцы і іх вершаваныя радкі агледальнікі абыходзяць увагай.

Літаратурны крытык і вядучая прэзэнтацыі Ганна Кісьліцына адзначыла, што самае карыснае для яе, як крытыка, што яна ведае творчасьць тых аўтараў, якіх яна сустракае на старонках кнігі. Вялікім недахопам нашага літаратуразнаўства з'яўляецца тое, што сучасныя крытыкі амаль не чытаюць маладую паэзію, а засяроджваюцца больш на клясычнай: разважаюць пра Коласа, Купалу, пра Багдановіча і зборы твораў вядомых творцаў...

«У прадмове да кнігі, – заўважыла сп. Кісьліцына, – адзначана, што аўтар аналізуе першыя кнігі маладых беларускіх паэтаў. Уяўляеце, якую адказнасьць трэба мець, каб выказацца пра вершы пачаткоўца, які, магчыма, стане клясыкам, ці, у горшым выпадку, больш нічога не створыць?"

Па-другое, А.Макмілін абсалютна не баіцца клясыфікацыі, што вельмі карысна для чытача, бо той будзе мець трывалы арыентыр: гэта гумар, а гэта твор духоўнага накірунку, ці лірыка. І ў гэтым крытык Г. Кісліцына бачыць цуд гэтай кнігі з такой паэтычнай і абавязваючай назвай «Рунь».

Сп. Макмілін коратка распавёў пра прынцып адбору іменаў для ягонай манаграфіі, якіх, між іншым, прадстаўлена чатыры дзесяткі: «Я зьвярнуўся да творчасьці тых паэтаў, чые кніжкі былі ў маіх руках. Будучы ў гадах, мне хацелася пісаць пра маладых аўтараў, як добры дзядзька! Я не жадаў падзяляць аўтараў на добрых і благіх. Гэта не мой мэтад. Карыстаючыся выпадкам скажу, што я вельмі ўдзячны выдавецтву «Беларускі кнігазбор», якое ажыцьцявіў гэты праект, а таксама ўладальнікам кнігарні «ЛогвінаЎ» за цёплы прыём і гэтую прэзэнтацыю».

Яшчэ адзін удзельнік прэзэнтацыі сп. Джым Дынглі ў сваім вітальным слове выказаў захапленьне працавітасьцю А.Макміліна, яго ўменьнем займацца гэтымі «танюсенькімі томікамі вершыкаў». Д. Дынглі таксама адзначыў важную ролю перакладчыкаў. Без такіх перакладчыкаў, як Вольга Калацкая, не было б такога багацьця ў нашых кнігарнях, якое ёсьць сёньня. Перакладчыкі ствараюць сувязі паміж людзьмі, культурамі, народамі. Таму трэба хваліць працу перакладчыкаў! – падкрэсліў Д.Дынглі.

В.Калацкая ў сваім выступе на прэзэнтацыі адзначыла, што беларуская літаратура на мапе Эўропы – «тэра інкогніта» – недаследаваная планэта. Але, на наша шчасьце ў той жа Брытаніі ёсьць навукоўцы, якія бачаць на гэтай плянэце жыцьцё і дзеляцца гэтым адкрыцьцём з усімі жадаючымі яго вывучаць. «Мы, беларусы, павінны быць удзячны Арнольду Макміліну за яго аб'ектыўны, зацікаўлены погляд на літаратурны працэс у нашай краіне, на лёс нашай мовы, на пытаньні духоўнасьці і рэлігійнасьці. Дарэчы, пасьля прачытаньня кнігі А.Макміліна «Рунь» мы шмат даведаемся і пра самога аўтара, як чалавека» - адзначыла Вольга Калацкая.

Іншыя ж выступоўцы, сярод якіх былі паэты А.Хадановіч, В.Жыбуль, пажадалі беларускім аўтарам і крытыкам, каб кнігі Арнольда Макміліна, і не толькі новая- «Рунь», але і ўжо клясычная манаграфія «Пісьменства ў халодным клімаце: беларуская літаратура ад 1970-х гадоў да нашых дзён» сталі настольнымі для нашых аўтараў, больш вывучаліся і шырэй цыталяваліся» - такімі словамі завяршыў сваё вітаньне ўдзельнікам прэзэнтацыі Андрэй Хадановіч.

Некаторыя маладыя паэты, пра творчасьць якіх вялася размова, сярод якіх Алесь Емяльянаў, Ігар Палякоў з удзячнасьцю да А.Макміліна працытавалі свае вершаваныя радкі, пацьвердзіўшы словы дасьледчыка з Вялікабрытаніі пра станоўчы рух маладой беларускай паэзіі.

Па завяршэньні прэзэнтацыі лідар кампаніі «Гавары праўду», паэт Уладзімір Някляеў нагадаў, што кніга «Рунь» прысьвечана сьветлай памяці айца Аляксандра Надсана, які прыгарнуў да беларушчыны перакладчыцу Веру Рыч, прысутных тут Арнольда Макміліна і Джыма Дынглі – людзей унікальных і надзвычай таленавітых. Уладзімір Пракопавіч з удзячнасьцю за ўвагу да беларускай літаратуры прачытаў верш «Паводка», прысьвечаны Арнольду Макміліну.

Бадай усе ўдзельнікі прэзэнтацыі ў кнігарні «ЛогвінаЎ» выказвалі надзею, што новая кніга А.Макміліна будзе сапраўдным матываратарам для далейшага развіцьця літаратурнага працэсу ў краіне, а для самога спадара Арнольда «Рунь» не стане апошнім выданьнем па літаратурнай беларусістыцы.

***Анатоль Мяльгуй***
*(Менск)*

## Выйшаў новы нумар часопіса «Культура, Нацыя»

***Чарговы, 15-ты, нумар часопіса «Культура, Нацыя», публікуецца на www.sakavik.net.***

***У часопісе вы знойдзеце:***
- ***дапоўнены праект «Стратэгіі развіцьця беларускай нацыі»,***
- ***матэрыялы 32-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі, уключна з праграмай, лекцыямі, выступленьнямі, рэзалюцыяй,***
- ***інтэрв'ю з Пятром Мурзёнкам з нагоды публікацыі яго кнігі «Шляхі да беларускай нацыі».***

# Мянчанка ў ЗША перамагла на амерыканскім кінафестывалі



***Мянчанка ў ЗША перамагла на амерыканскім кінафестывалі з фільмам пра беларускі фальклор.***

Гэта першы фільм аб беларускім фальклоры, створаны ў ЗША і менавіта для ангельскамоўных гледачоў.

Дакументальны фільм пра беларускі фальклор «Песні старой Еўропы - старажытныя беларускія народныя песні» стаў пераможцам на амерыканскім фестывалі CIFF-2016. Рэжысёркай і прадусаркай выступіла мянчанка Воля Дземка, якая ўжо некалькі гадоў жыве ў ЗША .

Частку сродкаў на стварэнне фільма рэжысёрка сабрала праз краўдфандынг. Грошы ахвяравалі і беларусы, і амерыканцы. Але на ўсё не хапіла. На сканчэнне фільма Воля выдаткавала свае зберажэнні, якія збірала, працуючы перакладчыкам у кампаніі Майкрасофт, і ўзяла крэдыт у банку.

«Шчыры дзякуй усім, хто дапамагаў нам у стварэнні фільма: сям'і, цудоўным аўтэнтычным гуртам і выканаўцам, нашай самай найлепшай у свеце мега-кінагрупе, экспартам, спонсарам і ўсім-усім-усім!», - напісала Воля ў сябе на старонцы ў Facebook.

Цяпер у інтэрнэце даступны трэйлер фільма.

Фільм «Песні старой Еўропы - старажытныя беларускія народныя песні» стаў першай працай аб нашым фальклоры, створанай на тэрыторыі ЗША і менавіта для ангельскамоўных гледачоў.

«Колькі нам яшчэ гадоў засталося? Мабыць, 10, можа, 15, покуль сыдуць апошнія нашы бабулі, а разам з імі песні, - тлумачыць Воля, навошта здымала кіно. - Гэты фільм і ўвогуле гэты праект з такіх, якія робіш, таму што не рабіць немагчыма, а часу застаецца ўсё менш».


Фота Эліны Шарковай

# 32-я Сустрэча беларусаў

Першае таварыскае спатканьне на беразе Ніягарскага вадаспада ў 1957 годзе паваенных беларускіх эмігрантаў, што натрывала асяліліся ў *дзвюх суседніх краінах* паўночна-амэрыканскага кантыненту - ЗША і Канадзе, з цягам часу ператварылася ў сталую традыцыю. З таго часу прайшло 59 гадоў і ніводнага разу спатканьне не было адмененае, рэгулярна раз на два гады амэрыканскія і кандыйскія беларусы прыкладаюць намаганьні, каб як найлепей падрыхтваць гэтае сьвята. Робіцца гэта па чарзе - адзін год у Амэрыцы, а наступная сустрэча ладзіцца ў Канадзе. Дакладнае месца выбіраюць ужо самі арганізатары.





Мінулая 32-я Сустрэча праходзіла ў Нью-Ёрку, а сёлетнюю рыхтавалі канадыйскія беларусы, ўпершыню ў сталіцы сваёй багатай на прыгажосьць краіне пад кляновым лістом. Раней форумы адбываліся пераважна ў Таронта, дзе жыве значная колькасьць беларусаў. Неяк адпачатку, калі канадыйцы заявілі аб выбары месца Сустрэчы ў Атаве, шмат хто з амэрыканскіх беларусаў засумняваўся, ці ўдасца гэта зрабіць на належным узроўні, бо там жыве значна меншая колькасьць нашых людзей. Аднак, пазьней мы пераканаліся, што выбар быў удалым. Удзельнікі маглі пабачыць нову-











ю мясьціну ў Канадзе, дзе існуе беларуская прысутнасьць, пазнаёміцца з Атаваю, а па дарозе пры перасадцы на аўтавакзале пабачыць і знакаміты Монрэаль у франкамоўнай правінцыі Квэбэк.

Прыгожы горад Монрэаль сустрэў нашых падарожнікаў надзвычай гасьцінна, ніяк не спадзяваліся ўбачыць такую выразную прыкмету сапраўднай дружалюбнасьці і прыязнасьці жыхароў да іншых народаў. У чаканьні перасадкі на Атаву я выйшла прайсьціся з будынку вакзала. Вяртаючыся назад і глянуўшы на шкляную сьцяну побач з уваходам, амаль на ўзроўні вачэй пабачыла выразны надпіс па-беларуску "Шчыра запрашаем". Ну, хто ж з нас тут мог устрымацца ад радаснага ўсклiку? А потым мы знайшлі такія ж надпісы і каля касаў, дзе прадаюцца квіткі. Вядома, монрэальцы вітаюць не толькі беларусаў, і наш надпіс быў у шэрагу такіх жа прывітальных надпісаў на іншых мовах, але беларускі быў у самым цэнтры. Тады мне і ўспомнілася, як канадыйскія беларусы, найперш Раіса і Францішак Жук-Грышкевічы, Івонка Сурвілла і інш. дзеячы дабіваліся і нарэшце дасягнулі таго, што беларуская мова ў Канадзе ўнесеная афіцыйна ў сьпіс моваў, якія прысутныя ў краіне. Праўда, на вакзале ў Атаве мы нічога на беларускай мове не пабачылі, але, можа таму, што проста не дабраліся да такога месца.

Аднак, такое месца ў Атаве сёлета 3-5 верасьня існавала ў самым цэнтры гораду - у фэшэнэбэльным гатэлі Лорд Элджын (Lord Elgin), які знаходзіцца на аднайменнай вуліцы, гатэль і вуліца носяць імя былога генерал-губернатара Канады. У гэтым гатэлі і адбывалася 32-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі, у залі праходзілі афіцыйныя мерапрыемствы, пражываньне гасьцей таксама было арганізавана ў гатэлі, каб не марнаваўся час на пераходы-пераезды.

# Паўночнай Амэрыкі

*Працяг на 10-13-й бачынах*
















# 32-я Сустрэча беларусаў

*Пачатак на 8-й і 9-й бачынах*

Сустрэчы традыцыйна арганізуюцца дзвума найбольш буйнымі беларускімі аб'яднаньнямі - Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем (БАЗА) і Згуртаваньнем беларусаў Канады (ЗБК). Кіраўніцтва арганізацый, як склалася на практыцы, даручае непасрэдную падрыхтоўчую працу сваім структурам па месцы правядзеньня Сустрэчы. Гэтым разам адказнасьць на сябе ўзяў Атаўскі аддзел ЗБК, які шмат гадоў узначальвае сп. Пётра Мурзёнак. Медык па прафэсіі, ён знаходзіць час і на беларускую грамадзкую дзейнасьць. Група актыўных сяброў Аддзелу начале са сваім кіраўніком шмат працавалі, каб арганізаваць Сустрэчу на добрым арганізацыйным і інтэлектуальным узроўні. Як кіраўнік арганізацыйнага камітэту, сп. Мурзёнак прапанаваў свой праект Праграмы Сустрэчы. Прызнаюся, што з боку БАЗА, мы былі з некаторымі пунктамі не згодныя, але, у выніку абмеркаваньня, усё ж вырашылі больш даверыцца нашым атаўскім сябрам.









Адкрыцьцё Сустрэчы было прызначана на 2 гадзіны дня ў суботу, 3 верасня, з тым, каб змаглі сабрацца як мага больш людзей. Дэлегацыя з Нью-Ёрку мела праблемы ў дарозе і толькі к гэтаму часу дабралася да гатэлю. Ад амэрыканскіх беларусаў на Сустрэчы былі прысутныя прадстаўнікі БАЗА у складзе 11 асобаў з Нью-Ёрку, Вашынгтону, Філадэльфіі і Клiўлянда, а таксама 4 асобы з суполкі "Пагоня" у Нью-Ёрку.

Сустрэча адчынілася цудоўнай музычнай кампазіцыяй, якую падрыхтавалі таленавітыя беларускія скрыпачкі з Атавы - Улада Шамецька, Галіна Рэзаіпур і піяністка Аляксандра Голад. З прывітальным словам да гасьцей зьвярнуўся старшыня Аргкамітэта сп. Пётра Мурзёнак. Далей праграму першага дня ў творчым суладдзі вялі сп. Аляксандра Логвін, сяброўка ЗБК з Атавы, і сп. Сяргей Раманюк, старшыня Аддзелу БАЗА з амэрыканскага Кліўлянду.

Музычны ўступ стварыў добры эмацыянальны настрой, а наступныя выступы і прамовы скіравалі ўвагу прысутных на грунтоўнае абмеркаваньне праблемаў беларускага жыцьця на Бацькаўшчыне і ў замежжы. Тэма Сустрэчы была сфармуляваная такім чынам - "Дыяспара: нацыянальная сьвядомасьць і разьвіцьцё грамадзянскай супольнасьці і культуры".

З першым рэфэратам "Нацыянальная ідэнтычнасьць беларусаў: узаемаўплывы працэсаў у дыяспары і Беларусі" выступіла госьця з Менску, кіраўнік Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" сп. Алена Макоўская. Яе выступ быў падмацаваны відэапаказам на экране лічбаў і схемаў тых працэсаў, якія адбываюцца сёньня ў беларускім грамадзтве. ЗБС "Бацькаўшчына" - грамадзкая арганізацыя, якая ад 1990 году займаецца справамі беларускага замежжа, на сёньня ёсьць найбольш дасьведчанаю структураю ў справах дыяспары і актыўным удзельнікам нацыянальнага жыцьця ў Беларусі. Пададзеная інфармацыя відавочна прыцягнула ўвагу ўдзельнікаў форуму і выклікала дыскусію, у якой бралі ўдзел тыя з прысутных, хто жадаў выказаць свае меркаваньні, погляды і засьцярогі, а таксама пададзь інфармацыю пра дзейнасьць, якая вядзецца ў беларускім замежжы. Прафэсар Зіна Гімпелевіч распавяла пра накірункі працы Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва ў Канадзе, кіраўніком якога яна сёньня з'яўляецца. Сп. Вячаслаў Бортнік з Вашынгтону, намеснік старшыні Галоўнай управы БАЗА, засяродзіўся на актуальнай тэме "Стварэньне эфэктыўнай мультымедыя прасторы для культурнага дыялёга: Беларусь - ЗША". Мастачка-вышываль-





# Паўночнай Амэрыкі



шчыца з Таронта сп. Ірына Варабей зацікавіла прысутных сваім выступам пра ейны праект "Spirit of Belarus", які папулярызуе ў Канадзе беларускую вышыванку, традыцыі гэтага мастацтва набываюць усё больш шырокую папулярнасьць сярод канадыйскага грамадзтва праз яе актыўную дзейнасьць.

Сп. Пётра Мурзёнак выказаў свае меркаваньні наконт характару ўзаемаадносінаў беларусаў замежжа і падкрэсьліў важнасьць таго, што добрыя сяброўскія і працоўныя адносіны ёсьць адным з галоўных чыньнікаў пасьпяховай дзейнасьці беларускіх асяродкаў у дыяспары. Праблема гуртаваньня беларусаў і прыхільнікаў беларушчыны існуе і сярод беларускай дыяспары ў Канадзе, патрэбна шукаць шляхі да аб'яднаньня.



Сп. Вячка Станкевіч, старшыня Рады дырэктараў Беларускай Фундацыі Крэчэўскага,што існуе ў Нью-Ёрку, выступіў з прамовай пра Беларускі музэй у Паўночнай Амэрыцы. Значная частка ягонага выступу была аддадзена інфармацыі пра тое, якія музэі іншых нацыянальнасьцяў створаныя ў ЗША. Тым самым сп. Станкевіч выразна паказаў, што мы не павінны быць апошнімі ў гэтым шэрагу, а мусім прыкласьці высілкі, каб існаваў і Беларускі музэй.

Завяршылася дыскусія выступам сп. Ганны Сурмач, старшыні Галоўнай управы БАЗА, з Нью-Ёрку. Яна засяродзіла ўвагу прысутных на актуальнай задачы ўсіх беларускіх арганізацый ў замежжы -захаваць для будучыні, для гісторыі інфармацыю пра ўласную дзейнасьць, каб не перарывалася сувязь пакаленьняў. Прамоўца падкрэсьліла, што любая самая актыўная дзейнасьць, якая не будзе зафіксаваная пісьмова ці нейкімі іншымі носьбітамі-захавальнікамі інфармацыі, сплыве ў нябыт. Памяць застанецца толькі пра тое, пра што было напісана ў кнігах, газэтах, засьнята на відэа і г.д. Клапіцца пра напісаньне і выданьне кнігаў пра дзейнасьць буйнейшых беларускіх арганізацыяў ёсьць абавязкам для кіраўніцтва гэтых арганізацый.

Асаблівую ўвагу сп. Сурмач надзяліла выданьню газэты "Беларус", рэдактарамякой яна зьяўляецца ўжо сёмы год. "Беларус" на сёньня ёсьць адной з найстарэйшых і амаль адзінаю беларускаю газэтаю ў заходнім сьвеце. Газэта "Беларус" - летапісец дзейнасьці беларусаў у Амэрыцы і Канадзе, гэта важная пісьмовая крыніца для гісторыі і яе трэба падтрымліваць. Газэце патрэбная як фінансавая падтрымка, так і інфармацыйная, трэба больш актыўна ўдзельнічаць у напісаньні матэрыялаў, падаваць навіны пра дзейнасьць беларускай дыяспары ў Паўночнай Амэрыцы.



Пасьля інтэлектуальнай часткі праграмы першага дня Сустрэчы арганізатары прапанавалі ўдзельнікам зьмястоўны адпачынак. Жадаючыя выправіліся на рачную прагулку па рацэ Атаве "Краявіды канадзкай сталіцы" і не пашкадавалі, калі пабачылі ўсю прыгажосьць надвячоркавай Атавы.

Сьвята працягнулася і ўвечары. Гасьцей запрасілі на сустрэчу і канцэрт з яшчэ адным госьцем з Беларусі - бардам Віктарам Шалкевічам, чыя творчасьць добра вядомая замежным беларусам. Сустрэча адбывалася непадалёку ад гатэлю ў кафэ "Cock and Lion". Заля была паўнюткая, і не толькі беларусамі: завітвалі туды і канадыйцы. Даўціпныя жарты сп. Шалкевіча, ягоныя арыгінальныя, незабыўныя мелёдыі ўздымалі настрой, часам выклікалі сум і настальгічныя парывы, ці ўзьнёслыя мары і жаданьні. Цёплая, сяброўская атмасфэра панавала ў гэтай канадыйскай залі, пачувалася нам як дома, бо навокал былі свае людзі.



Пасьля напоўненага дня і вечаровага вясельля доўга не маглі адыйсьці на адпачынак. Быў яшчэ цёплы па-летняму вечар, на вуліцах шматлюдна, і мы прайшліся грамадою па вечаровай Атаве, пабачылі, якім жыцьцём у суботні дзень жывуць атаўскія жыхары, як вабяць вольны час. Але, трэба было рыхтавацца да наступнага дня нашага сьвята, прынамсі, адпачыць і захаваць актыўнасьць, каб і другі дзень Сустрэчы быў не менш пасьпяховым.

Асноўнае пленарнае пасяджэньне Сустрэчы было прызначана ў нядзелю на 9:30 раніцы. Да гэтага часу і пазьней можна было ўжыць магчымасьць пазнаёміцца з выставаю, якую падрыхтавалі арганізатары з вялікай адказнасьцю і густам. Трэба адзначыць, што афармленьне форуму таксама выглядала інфармацыйна напоўненым. У галоўнай залі дэманстраваліся стэнды з кнігамі, газэтамі, дзе можна было пабачыць шмат новага і набыць некаторыя выданьні.

Для выставы быў абсталяваны асобны пакой, і ён здалёку прыцягваў увагу гасьцей. Там дэманстраваліся акварэлі Алены Ляпко, графіка і абразы Івонкі і Паўліны Сурвіллаў, алейныя палотны Пётры Шварцмана, арыгінальныя драўляныя вырабы Юркі Акулы, сына пісьменьніка і грамадзкага дзеяча Кастуся Акулы, экспазыцыя вышыванак сп. Ірыны Варабей. Усё гэта варта было агледзець вельмі ўважліва, бо за кожным творам бачылася асоба, якая спалучала ў сабе сваю глыбокую беларускую ідэнтычнасьць з вопытам жыцьця на чужыне, і такім чынам стваралася арыгінальная мастацкая рэч творцы.

Пленарнае пасяджэньне вялі кіраўнікі арганізацый, адказных за традыцыю правядзеньня Сустрэчаў - Зьміцер Эльяшэвіч, старшыня Галоўнай управы ЗБК і старшыня Галоўнай управы БАЗА Ганна Сурмач.

*Заканчэньне на 12-й і 13-й бачынах*



# 32-я Сустрэча беларусаў



Пачатак на бачынах 8-11

Прагучаў дзяржаўны гімн Канады і гімн "Магутны Божа" у сольным выкананьні Валянціны Шаўчэнкі з Таронта. Урачыста дабраславіў форум на пасьпяховую працу Уладыка Сьвятаслаў, Архіепіскап Наваградзкі і Паўночна-Амэрыканскі, Першагерарх Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.

Ганаровым госьцем на Сустрэчы была дзейная Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі сп. Івонка Сурвілла, якая пастаянна прысутная ў беларускім грамадзкім жыцьці ў Атаве, бо шмат гадоў стала жыве ў гэтым горадзе. Ёй быў нададзены гонар першай выступіць з прывітаньнем і зваротам да ўдзельнікаў Сустрэчы ад імя Рады БНР (тэкст прыкладаецца).

З прывітальнымі прамовамі ад сваіх арганізацый выступілі старшыні БАЗА і ЗБК.

Сустрэчу вітала ў сваім выступе і другая прадстаўніца ЗБС "Бацькаўшчына", старшыня Рады Згуртаваньня сп. Ніна Шыдлоўская.

У залі прысутнічалі прадстаўнікі атаўскай гарадзкой рады і няўрадавых арганізацый, з якімі беларусы цесна супрацоўнічаюць.

З вітальнымі прамовамі выступілі Давід Кілгор (David Kilgour), былы дэпутат канадыйскага парламенту (1979-2006), праваабаронца Кэйт Эглі (Keith Egli), дэпутат гарадскога савета Атавы, старшыня транспартнага камітэту горада

Пісьмовыя прывітаньні даслалі прэм'ер правінцыі Антарыё Катлін Уінн і міністр фэдэральнага кабінету Мелані Джолі. У сваім вітаньні сп. Джолі, у прыватнасьці, адзначыла, што "штодвухгадовыя сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі даюць магчымасьць сьвяткаваць дасягненьні беларускай спадчыны, паказаць беларускую культуру і выявіць дасягненьні тых грамадзян нашых краінаў, што маюць беларускае паходжаньне".



Па сяброўску шчырымі і прыязнымі былі выступы прадстаўнікоў іншых нацыянальных аб'яднаньняў. Ад сваіх арганізацый беларусаў віталі Мікола Біланюк, сакратар Рады Кангрэсу украінцаў Канады ў правінцыі Антарыё, старшыня Аттаўскага навуковага таварыства ім. Т. Шаўчэнка Станіслаў Заборовскі (Stanislaw Zaborowski), сакратар Аттаўскага аддзелу Канадыйска-Польскага Кангрэсу Андрыс Кестэрыс (Andris Kesteris), прадстаўнік латыскай і балтыйскай дыяспараў і Канадыйскай рады ўсходнеэўрапейскіх краінаў.

Далей увазе прысутных былі прапанаваныя два навуковыя рэфэраты. Дырэктар Цэнтру беларускіх дасьледаваньняў у Канзасе, прафэсар Вартбургскага унівэрсытэту з амэрыканскага штату Айова сп. Паўліна Сурвілла мела рэфэрат у ангельскай мове на тэму: "The Persistence of Memory and Formation of Identity: Migration and the Homeland in Belarusian Experience". Паўліна Сурвілла - вядомая дасьледчыца і актыўная папулярызатарка беларускай культуры, удзельніца беларускага грамадзкага жыцьця, гадавалася ў беларускім патрыятычным асяроддзі сям'і Янкі і Івонкі Сурвіллаў. Аналітычныя высновы і навуковыя абгрунтаваньні паважанай прафэсаркі з вялікай цікавасьцю былі ўспрынятыя аўдыторыяй. Прыемнай нечаканасьцю для сп. Сурвіллы стаўся выступ прысутнага на Сустрэчы Юркі Акулы, сына пісьменьніка і гармадзкага дзеяча Кастуся Акулы, якога высока шанавалі канадыйскія беларусы. У памяць бацькі сп. Юры перадаў 10 тыс. даляраў на патрэбы Цэнтра беларускіх дасьледаваньняў у Канзасе.



Другі рэфэрат падрыхтавала таксама вядомая дасьледчыца, доктар Галіна Туміловіч, выкладчыца Carleton Univercity у Атаве, кавалер французскага Ордэна Акадэмічных пальм. Тэмаю яе выступу была "Беларусь: ад ВКЛ да сусьветнай глябалізацыі - якую спадчыну возьмем з сабою".

Далей адбылася дыскусія па тэмах рэфэратаў, і дакладчыцы адказвалі на шматлікія пытаньні прысутных.

Пад час дыскусіі з адмысловаю прамоваю выступіў ганаровы госьць, беларускі палітычны дзеяч, старшыня Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі - БНФ сп. Зянон Пазьняк, які падрабязна і дахадліва распавёў пра тыя небясьпекі, якія нясе для беларускай нацыі новая палітычная сытуацыя, якая склалася ў сьвеце. Расейская агрэсія супроць Украіны нясе пагрозу і для Беларусі. Расейская агрэсіўная прапаганда распаўсюджваена Беларусь сваю імпэрскую ідэалёгію. Трэба супроцьстаяць гэтаму агрэсіўнаму "русскому миру", абараняць і захоўваць сваю ідэнтычнасьць, свае нацыянальныя каштоўнасьці, - мову, культуру інашу дзяржаўную незалежнасьць.

Завяршальным акордам афіцыйнай часткі Сустрэчы сталася прыняцьцё Рэзалюцыі, якое адбылося трохі пазьней, пасьля перапынку, бо патрэбна было дапрацаваць праект (тэкст дакумэнта падаецца ніжэй).

Арганізатары падрыхтавалі для гасьцей напрыканцы другога дня Сустрэчы арыгінальную экскурсію:не кудысьці -небудзь, а наўпрост ў канадыйскі парлямэнт, будынак якога знаходзіцца непадалёку ад гатэлю. У нядзельны дзень там праводзяццапраходкі па будынку невялікімі турыстычнымі групамі з экскурсаводам для ўсіх жадаючых. Вось бы такая звычка завялася ў Менску!

Уражаньні атрымалі незвычайныя. Як жа трэба шанаваць сваю краіну, каб адбудаваць такую прыгажосьць!Будынак узьведзены ў 20-х гадох мінулага стагоддзя, не такі ўжо стары, але ў ангельскімстылі, што стварае ўражаньне глыбокай гістарычнасьці, хаця Канада





# Паўночнай Амэрыкі



толькі ў наступным годзе рыхтуецца адсьвяткаваць 150 гадоў сваёй дзяржаўнасьці. Усё зроблена з натуральнага каменя і дрэва, асабліва ўразіла бібліятэка, дзе кнігі захоўваюцца, як найвялікшыя сьвятыні. Дамінантаю ўсяго комплексу ёсьць высотная вежа з гадзіньнікам, вышэй якой не можа ўзводзіцца ў горадзе ні адзін будынак.Таму "хмарачоса" у Атаве няма, можа гэта і добра.

Уразіў і такі факт - на самым верхнім паверсе вежы знаходзіцца мемарыяльная заля, дзе захоўваюцца рэгістрацыйныя кнігі з запісам імёнаў усіх канадыйцаў, якія загінулі пад час розных вайсковых дзеяньняў. Вось такое годнае ўшанаваньне памяці сваіх дастойных грамадзянаў арганізавала канадыйская дзяржава.

Праграма другога дня Сустрэчы была настолькі насычанаю, што пасьля экскурсіі некаторыяледзь дайшлі да гатэлю. Але, стомы як не бывала, калі праз пару гадзінаў пачалася сьвяточная сяброўская вячэра і канцэрт. На пачастунак нават былі пададзеныя беларускія дранікі. Але, безумоўна, найбольшая ўвага прыцягвалася да мастацкай часткі вечарыны. Так сталася, што ў Канадзе апынулася даволі значная колькасьць мастацкіх талентаў з Беларусі і на сьвяткаваньнях канцэрты ладзяцца ўласнымі сіламі на высокім мастацкім узроўні.

Вышэй ужо згадвалася пра дзвух скрыпачак-беларусак, якія надзвычай упрыгожылі канцэртную праграму. Мы ў Нью-Ёрку два гады таму слухалі выступ Уладзі Шамецька, якая мае прафесійную адукацыю, але на эміграцыі прафесійна займацца музыкаю ёй не давялося. І вельмі шкада, бо скрыпка ў ейных руках літаральна сьпявае, выводзячы самыя складаныя мелёдыі, здаецца, што гэта сьпявае сама ўзьнёслая душа выканаўцы. Уладзя выступала разам з гітарыстам Міхасём Рыкавым, разам яны стварыцы ужо вядомы нам дуэт "Кантабіле". Цудоўна гучалі у суправаджэньні Уладзінай скрыпкі вершы Юрася Шамецькі.

Ірына Рэзаіпур займаецца музыкаю прафесійна, і мы мелі магчымасьць паслухаць, як гучыць скрыпка ў руках прафесіянала, яна іграла ў суправаджэньні піяністкі Аляксандры Голад. Ірына таксама віртуозна выканала кампазыцыю "Маленькая балерына" разам з музычным гуртом у складзе Алега Бувевіча і Алега Жукава. Два Алегі таксама прапанавалі свае музычныя кампазіцыі і былі аддзячаныя дружнымі воплескамі залі.

Пачулі мы і сьпевы знакамітага гурту "Яваровы людзі" з Таронта, хаця толькі ў частковым складзе. Мелі посьпеху прысутных сольныя выступы Валянціны Шаўчэнкі і Віялеты Кавалёвай. Прыемнай нечаканасьцю стаўся выступ сымпатычнага маладога чалавека са знешнасьцю мадэлі Кірыла Туміловіча, які прачытаў вершы Максіма Багдановіча, Ларысы Геніюш, Натальлі Арсеньевай.

Безумоўна, што адным з самых чаканых артыстаў быў Віктар Шалкевіч, якога прымалі пад бурныя воплескі.

Вяла канцэртную праграму сп. Аляксандра Логвін, яна так адказна спраўлялася са сваімі абавязкамі, так што ўсё ішло гладка - зладжана.

Напрыканцы на сцэну выйшлі ўсе жадаючыя і разам з усёй заляю прасьпявалі гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Гэты адзінадушны парыў стаўся выдатным завяршэньнем вечарыны і цэлай Сустрэчы.

Наступны дзень, панядзелак, быў у Канадзе - як і ў ЗША - выходным днём, калі сьвяткуецца традыцыйны Labor Day. Тых гасьцей Сустрэчы, хто яшчэ не ад'язджаў дадому, запрасілі на гасьцяваньне ў сваю хату спадарства Натальлі і Пётры Мурзёнкаў. Там сабралася і беларуская атаўская грамада - тыя, хто працаваў дзеля арганізацыі Сустрэчы. У цёп-



лай, сяброўскай атмасфэры, якую стварылі гаспадары дому, пачувалася ўтульна і прыемна. Бліжэй знаёміліся, перамаўляліся, абмяркоўвалі набалелыя праблемы і частаваліся смачнымі стравамі, прыгатаванымі гаспадыняю - сп. Натальляю. Арганізавалася і культурная праграма - свае паэтычныя творы чыталі Пётра Мурзёнак і Юрась Шамецька. Гумарыстычныя, а часам і востра сатырычныя зацемкі пра рэаліі беларускага жыцьця чытаў Віктар Шалкевіч.

Прысутны мастак Пётра Шварцман, чые абразы мы бачылі на выставе Сустрэчы, запрасіў наведацца і да яго ў госьці, бо ягоны дом знаходзіцца непадалёку. За гэтыя запросіны мы былі потым яму вельмі ўдзячныя, бо наведваньне аказалася вельмі цікавым. Ягоная хата выглядае мастацкім музеем, дзе ўсе сьцены ўпрыгожаныя абразамі, а таксама можна пабачыць цэлыя калекцыі розных мастацкіх і старажытных рэчаў.

Сп. Шварцман сябруе з атаўскімі беларусамі доўгія гады, бо сам паходзіць з Менску. Пераехаў у Канаду напрыканцы 70-х гадоў, але не страціў сувязяў з Беларусьсю. Яшчэ ў Менску ён атрымаў вышэйшую адукацыю ў галіне архітэктуры і ў Канадзе таксама пасьпяхова працуе як архітэктар. Але, найбольшае ягонае захапленьне - мастацтва. Можна толькі зьдзіўляцца, як шмат жыцьцёвага часу ён аддае жывапісу, эксперыментуе у розных тэхніках, шукае новыя формы і вобразы. Выглядае, што і ў мастацтве сп. Пётра не меньш прафесіянал, чым у архітэктуры, дакладней было б сказаць, што ён - сапраўдны мастак-творца.

Тут мы даведаліся, што гаспадыняю ў доме сп. Шварцмана ёсьць аўтарка рэфэрату на Сустрэчы сп. Галіна Туміловіч. Еённымі клопатамі таксама падтрымліваецца асаблівая духоўная, узьнёслая атмасфэра дому, дзе жыве беларускі дух і ўспаміны пра Бацькаўшчыну.

Вярнуўшыя да спадарства Мурзёнкаў, мы падзякавалі гаспадарам за гасьцінасьць, а ўсёй атаўскай беларускай грамадзе за добра арганізаваную Сустрэчу.

У гэты вечар мы пакідалі Атаву з добрым настроем і лёгкім сумам, які заўсёды наступае пасьля сьвята. 32-я Сустрэча застанецца цёплым успамінам, як пра сталіцу Канады, так і пра нашых суродзічаў, што годна трымаюць там беларускую прысутнасьць.

Па традыцыі, мы запрасілі канадыйскіх беларусаў на наступную 33-ю Сустрэчу, якае мае праходзіць у ЗША праз два гады, у 2018 годзе. Яна будзе рыхтавацца намі пад знакам 60-гадовага юбілею нашых форумаў. У наступным 2017 годзе як раз і будзем адзначаць гэты юбілей, можна было б нават і на Ніягару паехаць, каб пабываць на тых мясьцінах, дзе адбылася Першая Сустрэча ў 1957 годзе.

***Ганна Сурмач***
*фота Эліны Шарковай і Ганны Сурмач*





# Зварот Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы

## да ўдзельнікаў 32-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі

***Дастойны Уладыка, паважаныя госьці, дарагія сябры!***

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі вітаю вас на гэтай першай Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў канадыйскайсталіцы Атаве. Тым, хто яшчэ не быў у гэтым цудоўным горадзе, спадзяюся, што ён спадабаецца і што ў панядзелак мы разьедземся з новымі сіламі і новым энтузіязмам прадаўжаць працу на карысьць нашай Бацькаўшчыны.

Хацягэта першая такая Сустрэча ў Атаве,яна далёка не першая беларуская імпрэза ў сталіцы Канады. Калі не самі, дык разам з іншымі этнічнымі групамі, мы стараемся быць усюды, дзе важна паказаць, што Беларусь жыве і хоча жыць!

Яшчэ ў 1975 годзе ў Атаўскім універсытэце адбылася першая навуковая канфэрэнцыя, прысьвечаная беларускай прысутнасьці ў Паўночнай Амэрыцы, пра яе тут гаварыла прафэсар Зіна Гімпелевіч.

Атаўскі аддзел ЗБК між 1979 і 1989 гадамі браў удзел у 10 Фэстывалях Бацькаўшчынаў (Homelands). Рабілі выставы беларускага народнага мастацтва. Прысутнічалі на дэманстрацыях з нашымі Цэнтральна і Усходне Эўрапейскімі суседзямі. Бралі ўдзел на ўзроўні управы у дзейнасьці

Канадыйскай Этнакультурнай Рады. Мэтаю нашай заўсёды было здабываць сяброў для Беларусі і падтрымку ў змаганьні за незалежную Бацькаўшчыну. Калі Бог дасьць мне яшчэ жыцьцёвы час, маю намер напісаць пра ўсё гэта больш абшырна.

Таксама спадзяюся яшчэ напісаць пра Канадзкі Фонд дапамогі ахвярам Чарнобылю, які мы стварылі ў Атаве ў 1989 годзе. Гэта нам дазволіла высылаць, або спрычыніцца да высылкі на мільёны даляраўмедычнайдапамогі ў Беларусь і прывезьці тысячы беларускіх дзяцей на адпачынак у Канаду. Толькі ў адным 1997 годзе, калі я пакінула старшынства ў Фондзе, мы прывезьлі з Беларусі 650 дзяцей на аздараўленьне.

Сёньня мы сабраліся ў Атаве, каб падумаць разам пра месца культуры ў нашым жыцьці. Тэма выдатная, бо культура ёсьць сродкам, якім карыстаюцца ўсе народы, каб здабыць сабе пачэснае месца ў сямьі народаў сьвету. Рада БНР прыняла пастанову зрабіць актыўнае інфармаваньне сьвету пра беларускую культуру часткаю свае палітычнай дзейнасьці.

Я спадзяюся, што гэтая Сустрэча запачаткуе новуюстаронку ў жыцьці беларускай дыяспары ў ПаўночнайАмэрыцы. Мы маем у нашых руках вялізарныя магчымасьці прыцягнуць увагу сьвету на наш уклад у культурную скарбніцу чалавецтва. Гэта тым болей важна, што на Бацькаўшчыне беларуская культура не толькі не зьяўляецца прыярытэтам для дзяржаўных уладаў, але маргіналізуецца на карысьць расейскай.

У сваім інтэрвю, апублікаваным на сайце Радыё Свабода, пісьменьніца Вольга Іпатава выказала шкадаваньне, што нацыянальная гісторыя не стала ветразем для нацыі, А без напоўненага ветразя - кажа яна - ніводная нацыя не зможа плысьці ў шырокі сьвет. Тое самае можна сказаць і пра мову і пра ўсе іншыя галіны культуры. Дзеля таго, што чалавек за мяжой лепш усьведамляе сабе важнасьць прыналежнасьці да роднай культуры, дыяспра тут таксама можа адыграць сваю актыўную ролю.

Заклікаю тых, хто яшчэ не далучыўсяда нашае грамады, да гуртаваньня ў ЗБК і БАЗА, да ўсіх нашых супольных намаганьняў. Далучайцеся! Так, як і іншыя народы сьвету, разам мы будзем мацнейшымі і хутчэй здабудзем для нашага народу павагу ў сьвеце.

У канцы хачу нагадаць пра наша вялікае нацыянальнае сьвята - Дзень юрыдычнага аднаўленьня незалежнасьці Беларусі 25 гадоў таму - 25 жніўня 1991 году. З гэтай нагоды віншую ўсіх прысутных ад імя Рады БНР.

***Жыве Беларусь!***

# Рэзалюцыя 32-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амерыкі

## *(3-5 верасьня 2016)*

Мы, прадстаўнікі беларускіх асяродкаў ПаўночнайАмерыкі, удзельнікі 32-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амерык, абмеркаваўшы актуальныя пытаньні стану беларускай нацыянальнай сьведамасьці, грамадзянскай супольнасьці і культуры ў асяродках дыяспары і выходзячы з пазіцыі аб культурным адзінстве беларускай нацыі сьведчым наступнае:

Культурнае адзінства нацыі абазначае і прадугледжвае беларускую ідэнтычнасьць пасёодна, дзе жывуць беларусы (або людзі, якія ідэнтыфікуюць сябе беларусамі);

Захаваньне беларускай ідэнтычнасьці зьяўляецца сьведамай нацыянальнай задачай кожнага беларуса на Бацькаўшчыне і ў замежжы, што дае магчымасьць захаваць беларускую культуру і стварыць беларускае сацыяльнае асяродзьдзе для яе разьвіцьця ў эміграцыі;

Выклікі сучаснага сьвету нясуць пагрозу упадка культуры з прычыны таго, што агрэсіўныя супольнасьці ўасобных краінах выкарыстоўваюць мову і культуру, як сродак разбуральнай палітыкі і націску на мову і культуру краінаў і этнічных групаў, падвержаных агрэсіі і акупацыйнай палітыцы;

Нэгатыўныя працэсы сталага даўгагадовага абмежаваньня разьвіцьця беларускай нацыянальнай культуры на Бацькаўшчыне вядуць да незваротных вынікаў ў разьвіцьці нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў як на Радзіме, гэтак і ў асяродках дыяспары.

**Уважаем:**

1. Беларускую мову непарушным падмуркам нацыянальнае культуры і шчытом перад разбуральнай агрэсіяй антыкультурных сілаў,

2. Зьберажэньне і пашырэньне ўжываньня беларускай мовы асноўным чыньнікам беларускай салідарнасьцій сьвеце,

3. Беларускую нацыянальную асьвету галоўным чыньнікам умацаваньня нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў,

4. Пашырэньне беларускай нацыянальнай літаратурнай творчасьці, навуковых дасьледаваньняў і новых формаў заангажаваньня беларусаў ў грамадскае, культурнае і рэлігійнае жыцьцё паўночнаамерыканскай беларускай дыяспары павінны быць шырока падтрымана.

Падтрымліваем наступныя захады і прапануем асяродкам беларускага замежжа у Паўночнай Амерыцы

1. Засяродзіць увагу на ядናньні беларусаў у замежжы на глебе беларускай культуры, мовы і традыцый, якія ляжаць у аснове будаўніцтва нацыі, не допускаць падзелубеларусаў з розных падставаў і прычынаў;

2. Надалей прытрымлівацца ў сваёй дзейнасьці прынцыпаўпразрыстасьці і дэмакратычнасьці; трымаць высокі ўзровень ўзаемаадносін паміж сабою;

3. Спрыяць пашырэньню беларускай прысутнасьці ў сьвеце праз беларускія асяродкі як у існуючых, так і новых формах, у тым ліку праз сучасныя сродкі масавай інфармацыі і камунікацыі;

4. Кантактаваць з кіраўніцтвам незалежных сродкаў масавай інфармацыі з просьбай асьвятляць жыцьцё беларусаў Паўночнай Амерыкі ў больш поўнай меры;

5. Узмацніць абмен інфармацыяй паміж беларускімі асяродкамі ў Паўночнай Амерыцы.

Выказваем сваю салідарнасьць і падтрымку прадстаўнікам грамадзянскай супольнасьці,працаўнікам на ніве беларускай культуры, асьветы ў Беларусі, заклікаем суродзічаў набліжацьразамсьветлую будучыню нашай вольнай Айчыны Беларусі!

***Жыве Беларусь!***

*Атава, Канада*
*4 верасьня 2016 году*

# Водгукі на Сустрэчу

Найперш, хачу падзячыць арганізатарам за персанальныя запросіны прывезьці свае работы для выставы і прэзэнтаваць канадыйскую дызайнерскую студыю вышыўкі "Spirit of Belarus". Гэта была мая першая выстава ў беларускім асяродку Канады, і дзякуючы цудоўным умовам (у асобным пакоі) мне пасобіла прадэманстраваць свой поўны дысплэй. Праўда, прывезьці яго было задачай (жартую), але ўсе турботы акупіліся шыкоўнымі ўражаньнямі ад Сустрэчы. Пра якасьць арганізацыі ўжо гаварылі? Я далучаюся да самых ухвальных. Дадам, што мне вельмі імпанавала тое, што акрамя насычанай праграмы ў нас быў шанец пагледзець цудоўны горад – сталіцу Канады, у якой Сустрэчы праводзіліся ўпершыню, пабываць ў будынку парламента Канады, пакатацца на караблі па рацэ з надзвычайнымі відовішчамі. Пры гэтым хапіла часу на простыя сяброўскія сустрэчы, гамонкі. У гэтым ракурсе, для мяне нашыя Сустрэчы маюць самы намінальны сэнс – магчымасьць сустрэцца ўжывую. Напрыклад, у мяне ў жыцьці два прэзідэнты – Івонка Сурвілла і Зянон Пазьняк, і іх абаіх адначасна я магу ўбачыць і пагаварыць на Сустрэчах, як і было на гэтай. Таксама мне радасна было сустрэцца з тымі, каго ведаю, з кім стасуюся і нават сябрую, але завочна, праз інтэрнэт, ужо многія гады, а вось сёлета ўпершыню паціснула руку і абнялася з Нінай Шыдлоўскай, Маратам Клакоцкім... Цяпер нашыя стасункі будуць яшчэ больш цесныя і, спадзяюся, больш плённыя. Напрыклад, я ўбачыла цудоўнага, вясёлага чалавечка Ніну Шыдлоўскую, з чыёй сьветлай галоўкі ідзі проста пырскаюць – дай Бог ёй і сяброўцы Алене Макоўскай шмат энэргіі, каб ажыцявіць усё! – я цяпер увачавідкі ведаю, з кім маю справу. На такіх сустрэчах пры размовах сам-насам заўсёды нараджаюцца новыя ідэі, праекты. Вось гэтак мы з атаўскімі беларускамі дамовіліся аб правядзеньні варштатаў пра вышыўцы. А сьвяточная, узнёслая атмасфера Падзеі надае энэргіі і натхненьня на наступныя гады. Я гэта ўсё кажу для тых, хто Сустрэчы абмінае, асабліва для моладзі. Я разумею, што дарагавата было, але, думаю, што неяк варта на наступныя два гады выдзеліць у сямейным бюджэце асобную графу "Сустрэча-2018" і рыхтавацца. Паверце, усе вашыя затраты з ліхвой акупяцца і ўражаньнямі, і практычнымі справамі. Вам тут жыць, ладзіць сувязі, рухаць далей, працаваць на карысьць нашай агульнай Беларусі.

***Ірына Варабей***
*(Таронта)*

Добры дзень, Высокапраасвяшчэньнейшы Уладыка Сьвятаслаў, шаноўная сп. Сурвілла, паважаныя спадарыні і спадары, удзельнікі 32-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі!

Ад імя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня і Вашынгтонскага гуртка БАЗА хачу выказаць шчырую падзяку арганізатарам гэтага значнага мерапрыемства за запрашэньне да ўдзелу.

Для мяне вялікі гонар быць у гэтай зале, якая сёньня поўніцца выбітнымі асобамі, чыя клапатлівая праца на карысьць беларускай культуры і беларускай нацыянальнай сьвядомасьці надае Беларусі магчымасьць быць пазнавальнай на паўночна-амэрыканскім кантыненьце.

Сёньняшняя, 32-я па ліку, сустрэча – гэта і вынік няспыннай працы старэйшага пакаленьня беларусаў Паўночнай Амэрыкі, нашчадак, які мы атрымалі, каб беларуская культура крочыла не толькі праз час і стагоддзі, але і праз межы – рэгіянальныя і інтэркантынентальныя.

Нашая супольныя намаганьніна ніве беларушчын – гэта справа бягучага часу, якая адбіткам сфармуе будучую самасьвядомасьць белурусаўПаўночнай Амэрыкі.

У сваёй прамове да Вас сёньня я хачу зрабіць кароткую прэзентацыю дзейнасьці Вашынгтонскага гуртка БАЗА і акцэнтаваць Вашую ўвагу на магчымасьцях сучасных тэхналёгіяў і камунікацыйных інструмэнтаў, якія могуць унесьці новую плыню ў развіцьцё культурнага дыялёга паміж Паўночнай Амэрыкай і Беларусьсю.

З моманту стварэньня Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў 1949 годзе сябры арганізацыі накіравана праўцуюць па пяцёх асноўных накірунках:

- захаваньне і папулярызацыя беларускай культуры і гісторыі;
- узмацненьне стасункаў паміжбеларускім і амэрыканскім грамадствамі;
- аказаньне падтрымкі беларусам у Амэрыцы;
- абарона традыцыйных беларускіх каштоўнасьцяў, дэмакратычнага разьвіцьця, павагі да правоў чалавека ў Беларусі;
- супрацоўніцтва з лякальнымі і міжнароднымі партнэрамі, якія маюць агульныя інтарэсы.

Кожны з названых накірункаў дзейнасьці мае істотнае значэньне для дзвюхбаковых адносінаў, культурнага паразуменьня паміж Беларусьсю і ЗША, амэрыканцамі і беларусамі.

Актывісты Вашынгтонскага гуртка БАЗА падтрымліваюць жывы кантакт з палітыкамі, праваабаронцамі, дзеячамі культуры і лідэрамі грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі, дапамагаюць з арганізацыяй афіцыйных візытаў, а таксама праводзяць нефармальныя сустрэчы зь імі ў Вашынгтоне.

Актывісты гуртка арганізуюць кінапаказы фільмаў пра Беларусь, сустрэчы з беларускімі пісьменьнікамі і мастакамі, праводзяць лекцыі па беларускай гісторыі і культуры, адзначаюць беларускія сьвяты.

Значную дзейнасьць БАЗА ажыцьцяўляе і праз супрацу з міжнароднымі і міжнацыянальнымі арганізацыямі. Так да прыкладу, Алеся Кіпель зьяўляецца афіцыйнай прадстаўніцай БАЗА ва Усходне- і Цэнтральна-Эўрапейскай Кааліцыі (CEEC) і сяброўкай Вялікай Рады Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына". Вячаслаў Бортнік прадстаўляе БАЗА ў Кааліцыі па стварэньні Нацыянальнага музэя амэрыканскіх народаў.

Акрамя іншых арганізацыяў, Вашынгтонскі гурток БАЗА актыўна супрацоўнічае з Amnesty International USA, Atlantic Council, Freedom House, German Marshall Fund, Joint Baltic American National Committee і We Remember Foundation.

Гэтымі і шмат іншымі намаганьнямі сябры і актывісты БАЗА імкнуцца зрабіць імя "Беларусь" гучным у розных гарадах і мястэчках Паўночнай Амэрыкі, у афіцыйных кабінетах і падчас дзелавых сустрэчаў.

Але нават няпільным вокам можна заўважыць, што ёсьць сфэра,якую нашай арганізацыі і беларускай дыяспары навогул трэба намагацца больш засвоіць – гэта суцэльнае, актыўнае кіраваньне інфармацыяй пра Беларусь, яе культуру, гучныя палітычныя і сацыяльныя праблемы беларусаў ды іншыя пытаньні ў мультымедыйнай прасторы.

Шырокае карыстаньне мультымедыйнымі тэхналёгіямі адыгрывае значную ролю ў стварэньні якаснага кантэксту для вывучэньня культуры, стварэньня плятформаў для абмену думкамі, у тым ліку і лідэраў грамадскай думкі, акадэмічных і творчых гуртоў, моладзі і адукацыйных колаў.

Ключавыя фактары, якія уплываюць на эфектыўнасьць міжкультурнага дыялога гэта:

- стварэньне інтэграванага малюнка Беларусі;
- фармаваньне выбітных характарыстык краіны і культуры;
- прасоўваньне "іміджу культуры".

Кіраваньне гэтай інфармацыяй пашырае зону ўплыву на ўспрыманьне і разуменьнекультурнага кантэксту паміж носьбітамі розных культураў. Болей за тое, гэта мае вырашальнае значэньне для абодвюх краінаў дзеля ўзаемадзеяньня, разьвіцьця дзвюхбаковых сувязяў і дасягненьня агульнаакрэсленых мэтаў.

Уклад у веды беларускага і амэрыканскага грамадства пра ўнікальнасьць гэтых культураў, спрыяньне падвышэньню ўзроўню дасьведчанасьці і разуменьня пытаньняў правоў чалавека,у канчатковым рахунку, спрыяе разьвіцьцю ўзаемападтрымкі і даверу – базавых асноваў любога дыялогу.

Прапанаваныя сучасным часам магчымасьці глябальнай анляйн-сувязі, а таксама заахвочваньне ўдзелу дыяспары, актывістаў у бесперапынным працэсе дыскусій па пытаньнях Беларусі зьмяняюць інфармацыйны ландшафт кожны дзень. Але, чым больш скаардынаванай і пасьлядоўнай будзе праца паміж усімі зацікаўленымі суб'ектамі, прадстаўнікамі беларускай дыяспары ў стварэньні і выкарыстаньні агульнай мультымедыйнай прасторы, тым бліжэй місьі нашых арганізацыяў будуць да акрэсьленых мэтаў.

З першага крока пачынаецца кожны шлях. Я бачу нашую супрацу ў мультымедыйнай прасторы, паміж іншым, па рэалізацыі такіх праектаў ды ініцыятываў, як:

# "Стварэньне эфектыўнай мультымедынай прасторы дзеля культурнага дыялёгу "Беларусь-ЗША"

***Выступ на Сустрэчы ад БАЗА сп. Вячаслава Бортніка, намесьніка старшыні Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, Вашынгтон***

Стварэньне англамоўнай Youtube-серыі аповядаў пра Беларусь.

Стварэньне сучаснага англамоўнага інфармацыйнага парталу пра дзейнасьць беларускай дыяспары, які б быў цікавы амэрыканскім бізнэсоўцам, мастакам, дасьледчыкам ды іншым групам зацікаўленых.

Рэалізацыя тэматычных анляйн-праектаў пра палітычную сітуацыю ў Беларусі, а таксама праблемы стану правоў чалавека.

Спектар ідэяў у гэтым выпадку не абмежаваны, як і магчымасьці інфармацыйнай прасторы акумуляваць інтарэс людзей, зацікаўленых у пашырэньні ведаў пра культуры Беларусі і Паўночнай Амерыкі, людзей, якія могуць змяніць дынаміку дыялогу паміж ЗША і Беларусьсю!

Дзякуй за Вашую ўвагу, паважаныя спадарыні і спадары!

**Жыве Беларусь!**

---

# Вялікія менчукі вярнуліся да беларусаў

***У Менску адкрылі помнік кампазітару С. Манюшку і пісьменьніку В.Дуніну-Марцінкевічу***

Сёлетняе сьвяткаваньне 949-х ўгодкаў беларускай сталіцы было адзначана нешараговай культурніцкай падзеяй – адкрыцьцём помніка двум знакамітым жыхарам Менска – кампазітару Станіславу Манюшку і драматургу і паэту Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу.

Да гэтага сапраўднага сьвята, якое так і ахарактарызаваў кіраўнік Беларускай Капэлы, народны артыст Беларусі Віктар Скарабагатаў, сталічная інтэлігенцыя ішла доўгі час. Трэба было паказаць і даказаць, што Станіслаў Манюшка, негледзячы на статус пачынальніка польскай оперы, адначасова быў і рухавіком адроджанага беларускага опернага мастацтва. І на гэтай глебе пачалося супрацоўніцтва С.Манюшкі з друматургам і паэтам Вінцэнтам Дуніным-Марцінкевічам.

Асэнсаваньню ролі кампазітара ў гісторыі беларускай оперы паспрыялі і шматлікія публікацыі ў прэсе, тэле і радыё-сюжэты, праца па вяртаньню ў нацыянальны кантэкст творчасьці С. Манюшкі, якую праводзіла Беларуская капэла пад кіраўніцтвам В.Скарабагатава, папулярызацыя адзінага ў сьвеце музея С. Манюшкі, які дзейнічае на радзіме кампазітара ў Убелі, каля Смілавічаў. Віктар Іванавіч Скарабагатаў таксама шчыльна спрычыніўся да выданьня ўнікальнага CD «Песьні з-пад Нёмна й Дзвіны», якія быў выдадзены ў сэрыі «Беларускі Музычны Архіў» кампаніяй БМАgroup. Дзякуючы дыску і запісаных на ім песьням паводле беларускага фальклору, слухачы зразумелі карані творчай асобы С.Маніюшкі і яго схільнасьць да драматургіі Дуніна-Марцінкевіча.

Нажаль, былі на гэтым шляху адраджэньня гістарычнай праўды і незваротныя згубы – у 80-90 гады мінулага стагодьдзя, негледзячы на пратэст нацыянальнай інтэлігенцыі і моладзі, гарадзкое кіраўніцтва дало загад зьнесці будынак, у якім была пастаўлена першая беларуская опера «Сялянка» («Ідылія») С. Манюшкі на лібрэта В. Дуніна-Марцінкевіча. У гэтай оперы ўпершыню загучала беларуская мова. Цяпер на гэтым месцы стаіць гатэль «Эўропа»...



Сёньня пад час сьвяткаваньня Дня горада і адкрыцьця помніка знакамітым творцам гучала музыка С. Манюшкі ў выкананні квартэта «Версаль», а таксама салістаў Беларускай оперы. Гэтыя рамантычныя творы, як і сам помнік аўтарства скульптараў А. і С. Гумлеўскіх, архітэктара Я.Медзько былі цёпла ўспрыняты слухачамі і з гонарам за тое, што гісторыя нашай сталіцы такая багатая на геніяльных творцаў.

Пасля ўрачыстага адкрыцьця помніка вядучыя цырымоніі запрасілі ўсіх гараджан на баль ў гонар знакамітых ўраджэнцаў Менска – С.Манюшкі і В.Дуніна-Марцінкевча. Пад музыку С.Манюшкі каля Ратушы жадаючыя змаглі патанчыць як эўрапейскія, так і беларускія тагачасныя танцы – адчуць сябе жыхарамі Менску XIX стагодьдзя, якую так рамантычна зафіксаваў ў свам апавяданні «Засада ў горадзе Менску» пісьменнік Артур Конан-Дойл.

***Анатоль Мяльгуй***

## ВІНШАВАНЬНЕ

**Віншуем сяброўку Бруклінскага аддзелу Ксенію Нагорную з нараджэньнем дачушкі Эммы. Жадаем бацькам з радасьцю гадаваць сваю дачушку здаровай, разумнай, і каб ведала свае карані.**

***Бруклінскі аддзел БАЗА***





# Вянок памяці

**Сёлета 11 верасьня ва ўзросьце 78 гадоў адыйшоў у вечнасьць Юры Хадыка, якога ведалі асабіста шмат хто з беларускай эміграцыі ў Амэрыцы. Некалі ён адным з першых гасьцей з Бацькаўшчыны наведаў сурodзічаў за акіянам, тады ў 1990 годзе ён браў удзел у 19-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі.**

Юры Хадыка — фізык, палітык, прафэсар, актыўны ўдзельнік незалежніцкага руху Беларусі. Нарадзіўся 23 чэрвеня 1938 году ў Менску. У 1960 скончыў фізычны факультэт БДУ. Ад 1960 году працаваў у Інстытуце фізыкі АН БССР, малодшы, старэйшы навуковы супрацоўнік, кіраўнік групы, загадчык лябараторыі. У 1975 узначаліў сэкцыю аптычна-электронных сродкаў выведкі ў камісіі АН СССР па распрацоўцы прагнозу разьвіцьця ўзбраеньняў. У 1976 абараніў доктарскую дысэртацыю па тэме «Аптычныя характарыстыкі факелаў балістычных ракет». Аўтар каля 150 навуковых працаў па фізыцы.

Прафэсійны фізык-навуковец, сп. Хадыка захапляўся мастацтвам. Увосень 1969 году арганізаваў у АН БССР сэмінар па вывучэньні старажытнабеларускага мастацтва, браў удзел у зборы матэрыялаў і напісаньні «Зводу помнікаў гісторыі і культуры Беларусі». У 1979 адкрыў пры АН БССР Музэй старажытнабеларускай культуры. Ягонаму аўтарству належыць каля 40 публікацыяў па гісторыі беларускага мастацтва.

Браў актыўны ўдзел у беларускім грамадзкім і палітычным руху. З 1989 па 2007 намесьнік старшыні Беларускага Народнага Фронту. У 1996–2000 уваходзіў уназіральную раду Беларускага Хэльсынскага камітэту. Апошнія некалькі гадоў жыў у ЗША, у сям'і сына Кастуся, у штаце Калярада.

## Запрашаем на Асеньні баль

**Сярод паваеннай хвалі эміграцыі было шмат моладзі, якая гуртавалася ў арганізацыі і ладзіла сваё грамадзкае і нацыянальна-культурнае жыцьцё. У той час была закладзена прыгожая традыцыя правядзеньня сезонных моладзевых балёў - увосень, узімку (на Новы год) і вясною.**

**Галоўнымі складнікамі балёвых праграмаў былі:**
- **танцы, як беларускія, так і папулярныя сучасныя**
- **мастацкія сьпевы, тэатральныя дзеі**
- **віктарыны, гумарыстычныя нумары**
- **гульні і інш. забавы**

**З цягам часу, калі маладыя пасталелі, гэтая традыцыя прыпынілася. І вось цяпер сярод моладзевых актывістаў БАЗА ўзьнікла жаданьне аднавіць гэтую добрую традыцыю. Запрашаем беларускую моладзь і людзей усіх узростаў з Нью-Ёрку і ваколіцаў падтрымаць нашую ініцыятыву, далучыцца да падрыхтоўкі сёлетняга першага Асеньняга балю і прыняць удзел у ягонай праграме.**

**Баль будзе праводзіцца 12 лістапада ў Беларускім цэнтры на Атлантык Авэню 401 у Брукліне. Пачатак а 6 гадзіне вечара.**

**Дарагія сябры, чакаем вас на Асеньнім балі!**

***Бруклінскі аддзел БАЗА***

## На выданьне газэты "Беларус" ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| Уладзімір Андрыяш | $ 50 |
| Алег Аплевіч | $ 50 |
| Вольга Блізняцова | $ 50 |
| Кацярына Богуш | $50 |
| Зіна Гімпелевіч | 60 (кан. дал.) |
| Янка Грышкевіч | $50 |
| Юля Далбунова | $60 |
| Ігар Дамброўскі | 60 (кан. дал.) |
| Віялета Кавалёва | $ 20 |
| Рена Касьцюк | $ 50 |
| Сяргей Кірчанка | $ 50 |
| Максім Кучынскі | $ 50 |
| Аляксандра Логвін | 65 (кан. дал.) |
| Юры Логвін | 50 (кан. дал.) |
| Аляксандра Лістоўская | $ 50 |
| Ліза Літаровіч | $ 20 |
| Пятро Мурзёнак | 60 (кан. дал.) |
| Сяргей Раманюк | $ 60 |
| Анатоль Занковіч | $ 100 |
| Стэнлі Шабовіч | $ 100 |
| Сьвятлана Харко | $ 50 |
| Валянціна Шаўчэнка | 60 (кан. дал.) |

**Выказваем самую шчырую падзяку усім ахвярадаўцам за падтрымку нашай з вамі газэты!**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
ISSN 1054-9455

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
Belarusan American Ass'n, Inc.

**СКЛАД РЭДАКЦЫІ:**

Адказны рэдактар
**Ганна СУРМАЧ**
*surmacova@gmail.com*

Скарбнік, арганізатар падпіскі
**Таня КРАСОЎСКАЯ**
*premiere718@yahoo.com*

Рэдактарка дзіцячай старонкі
**Галіна ПАДЛЕСКАЯ**
*galinapodles@hotmail.com*

Адказная за рассылку газэты
**Натальля СТАРАВОЙТАВА**



Паштовы адрас Рэдакцыі:

**BIELARUS Newspaper**
**P.O. Box 456**
**New York, NY 10025**
**USA**

Электронны адрас (E-mail):
**bielarus@bazahq.org**

Кампутарная вёрстка
**Mikalai Media Productions**